



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

27 мая 2016 года №22 **(1100)**


## Вяселле ў маі, у высакосны год, з жоўтымі кветкамі і ў адкрытых туфлях

**Маладзечанка здолела пераступіць праз усе вясельныя забабоны**

старонка 5

## Калі пройдуць апошнія званкі і выпускныя ў рэгіёне

старонка 6

## Адам Мальдзіс: Нецікавых мясцін у Беларусі няма.

**Ёсць недаследаваныя**

старонка 21

## Палачаны запрашаюць на спаборніцтвы па канкуры

старонка 22



# Як прадаўцы на рынку ў Маладзечне змагаюцца за месцы

**У час напльву сезоннікаў стварылі дадатковы рад паміж крытымі прылаўкамі.**




старонкі 2-3

Фота Настассі РОЎДЫ.

## Штрафы за безбілетны праезд пералічылі ў бюджэт пасля таго, як умяшаліся кантралёры

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю праверыў аўтапарк №4 у Маладзечне і знайшоў парушэнні.**

Маладзечанскі філіял адкрытага акцыянернага таварыства “Мінаблаўтатранс” штогод не выконваў даведзеныя паказчыкі сацыяльна-эканамічнага развіцця, а рэальныя фінансавыя вынікі сістэматычна перабольшваў. У 2013 годзе пры стратах у два мільярды рублёў, а за сем месяцаў 2014 года – яшчэ большых за гэтую лічбу, у дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасці адлюстроўвалася бясстратная праца філіяла.

**47,8% прыгарадных і 69,6% гарадскіх маршрутаў філіяла стратныя.**

Аўтапарк правеў недастатковую работу па зніжэнні выдаткаў на выкананне пасажырскіх перавозак. Летась выдаткі на гарадскія перавозкі па Маладзечне пакрытыя даходамі ад продажу білетаў толькі на 64,3%. А ў Мядзеле – на 43,8%. Што тычыцца прыгарадных перавозак, то тут выдаткі пакрываюцца па Маладзечанскім раёне на 68%, а па Мядзельскім – на 21,6%.

Філіял не надаваў належнай увагі аптымізацыі маршрутнай сеткі і графікаў руху пасажырскага транспарту.

Патрабуе вырашэння пытанне выкарыстання на маршрутах транспартных сродкаў, умяшчальнасць якіх адпавядае пасажырапатоку.

Транспарт аўтапарка несвоечасова накіроўвалі на праходжанне тэхагляду, а таксама несвоечасова і не цалкам праводзілі неабходны комплекс работ па яго абслугоўванні. Гэта магло быць прычынай шэрагу няспраўнасцей.

Акрамя гэтага, у аўтапарка ёсць парушэнні бухгалтарскага ўліку, заканадаўства аб працы, знешнеэканамічных аперацыях. Да прыкладу, перавышэнне тэрмінаў правядзення валютных аперацый да 64 дзён. Толькі пасля ўмяшальніцтва кантралёраў больш за 200 мільёнаў штрафу за безбілетны праезд, атрыманыя ад пасажыраў у 2014-2015 гадах, філіял пералічыў у бюджэт.

Па выніках праверкі за дапушчаныя парушэнні да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнулі дзвюх службовых асоб на суму 2,7 мільёна рублёў, да дысцыплінарнай – пецярых. Юрыдычнай асобе могуць даць штраф да 40 мільёнаў рублёў, але гэта яшчэ разглядаецца.

Матэрыялы праверкі накіравалі ў праваахоўныя органы.

**Па інфармацыі Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

## У Вілейцы ўзводзяць два дамы па дзяржзаказе

ВІЛЕЙКА

**У цэнтры горада будуюць 12-кватэрны жылы дом па вуліцы 17 Верасня (на рагу з Чырвонаармейскай).**

– Гэта будзе трохпавярховы дом. У ім прадугледжаныя адна- і двухпакаёвыя кватэры, – патлумачыў начальнік аддзела ЖКГ Вілейскага райвыканкама **Аляксандр Корсак**.

Будаўніцтва вядзе ПМК-212 з Маладзечна, якая выйграла тэндар.

Таксама пачалі будаваць 60-кватэрны дом па вуліцы Гарадзішчанскай у мікраёне Паўночны. У гэтым пяціпавярховым доме будуць адна-, двух- і трохпакаёвыя кватэры. Будаўніцтва вядзе вілейская ПМК-185.

Гэтыя два дамы будуюць па дзяржзаказе. Кватэры ў іх прызначаныя для тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Абодва дамы плануюць здаць сёлета.

Таксама будаўнікі працуюць на арэндным доме ў мікраёне Паўночны, дадаў Аляксандр Корсак.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




**Усе лятуць, і я ляту**

6:30 раніцы. Каля ўвахода на маладзечанскі рынак райспажыўтаварыства ўжо чарга.
Фота Настассі РОЎДЫ.

# Як прадаўцы на рынку змагаюцца за месцы

МАЛАДЗЕЧНА

**У пятніцу, 20 мая, карэспандэнты “РГ” прачнуліся зацемна, каб трапіць на рынак яшчэ да яго адкрыцця. Праверыць, ці праўда, што тут у гандляроў штодзень забег на хуткасць і сваркі за вольнае месца.**

6:30 раніцы. Ля галоўнага ўвахода на маладзечанскі рынак райспажыўтаварыства тоўпяцца гандляры, чалавек 20.

Адзін смелы маладзён проста пралазіць пад агароджай, якая ад зямлі адарваная на сантыметраў 30 – і ён ужо можа выбіраць лепшыя з агульных скрынак пад прадукцыю ці займаць самае выгаднае месца. За ім ніхто не рызыкуе паўтарыць.

Праз 15 хвілін адчыняюць вароты. Гандляры разыходзяцца ў розныя бакі. Хтосьці ідзе няспешна, хтосьці – подбегам.

Некалькі з іх гучна выказваюць сваё незадавальненне: маўляў, толькі ўвайшлі, а тут ужо месцы пазайманыя, скрыні расстаўленыя.

Яшчэ хвілін праз 15 пачынаецца ажыўлены рух: уязджаюць машыны, на вазках увозяць рэчы. Паміж машынамі дзенідзе можна заўважыць і першых пакупнікоў – бяруць расаду.

Пытаемся ў гандляроў, у колькі яны прыйшлі на рынак.

**Прыезджыя з Радашкавічаў кажуць, што ўсталі ў дзве гадзіны ночы.**

Усё дзеля таго, каб прыехаць і заняць чаргу перад варотамі. А жанчына з Іўя – а палове чацвертай.

– У Валожыне толькі адзін базарны дзень – чацвер, а ў Іўі – пятніца. Таму прыехала ў Маладзечна, – патлумачыла яна.

Мясцовыя так рана не ідуць, але ўсё роўна не спяць у шапку.

– Кожную раніцу чакаю адкрыцця рынку, – распавядае гандлярка, якая раскладвае зеляніну на продаж. – Ужо пасля шасці раніцы пачынаем збірацца перад варотамі.

– Я прыехала пад сем гадзін, як у мяне дзве скрынкі, то мне і месца хапае, – кажа **Міня Ільясевіч**. – Адкрылі вароты, усе лятуць, і я ляту. Заўсёды, як няма месца, то Уладзіміраўна з адміністрацыі паможа. Калі пазней прыеду, то яна са мной падыдзе, скажа: “Дзяўчаты, крыху пасуньцеся”, і ўсунуся недзе. Заплачу 15 тысяч і працую, сезонна капусту прадаю.

Рынак паступова запаўняецца. Гандлярка, якая толькі-толькі прыйшла, спрабуе адшукаць сабе выгаднае месца.

– Нас тут ужо трое, ніяк не станеш, – кажуць ёй з аднаго прылаўка, і жанчына зноў азіраецца па баках, шукаючы іншае месца. Падыходзім да яе.

– Зараз пайду да кантралёра, няхай ён мне знойдзе, дзе стаць. У горадзе толькі адзін сельскагаспадарчы базар. Чаму не зрабіць гандлёвыя пункты ў 6-м, 4-м мікраёнах? Вось я сваё вырасціла, а прадаць не магу, – абураецца жанчына.

– Месцаў не хапае, – пагаджаецца і іншая гандлярка, якая прадае бульбу, што не паспелі з'есці за год. За месца яна плаціць 15 тысяч рублёў. – Тыя, у каго тут павільёны, пайшлі на прылаўкі пад навес, а ў павільёнах зрабілі склады. Трэба іх назад перасяліць, тады б месца хапала. А то атрымліваецца, што, каб месца заняць, трэба ляцець. Я ў шэсць гадзін раніцы прыйшла, стала ў чаргу. Але якая там чарга – хто здаравейшы і дужэйшы, той і займае месца.

– Перакупшчыкам месца хапае, стаяць ля прылаўкаў, – уключаецца ў размову іншая гандлярка.

– А простым людзям няма дзе – ні прылаўка, ні даху.

– Чаму тут прадаюць анучы, калі нам сваё няма дзе прадаць? Тут жа сельскагаспадарчы рынак.

– Я свае памідоры, перцы прадаю. Але яны за гэтыя анучы, пэўна, і жывуць.

Аднак не ўсе пакупнікі скардзяцца на ўмовы.

– Маглі б яшчэ прылавачкі паставіць, а так – усё нармальна.

– Нам-то з расадай прылавачкі і не трэба. Каб яблыкі прадавалі, то так, а з расадай – ні да чаго.

### Гандляры пад дахамі: нам ніхто не замінае

Прадавец з крытага павільёна ўладкоўвае вінаград і яблыкі на прылаўку. Пра сітуацыю з калегамі кажа:

– Хто рана ўстае, той месца і займае. Мы маем павільён і арэнду за месяц плацім крыху больш за мільён.

На заявы, што рынак райспажыўтаварыства – не месца для продажу рэчаў, адказвае адна з гандлярак адзеннем:

– Адведзенае месца і для прадуктаў, і для прамысловых тавараў. Рынак вялікі, месца павінна хапаць усім. Мы працуем шмат год, пакупнікі ведаюць, куды ісці. Суседства з сельскагаспадарчай прадукцыяй ніяк не замінае, нам нават вельмі добра. Калі гандлярам прадуктаў нязручна ці не хапае месца, няхай шукаюць іншае. Прамысловых тавараў тут усё ж больш, і нас усё задавальняе.

### Не вытрымала і перайшла на мінскі рынак

Два гады таму гандлярка **Таццяна Мікалаеўна** перайшла з маладзечанскага рынку на сталічныя.

– Цяпер мяне рэдка можна ўбачыць на рынку ў Маладзечне. Бывае, выберуся адзін ці два разы, а так увесь час у Мінску працую. Напрыклад, на Камароўцы проста – пішаш заяву, плаціш і табе даюць месца: на тыдзень, два ці на колькі трэба. Адзін дзень – 59 тысяч. Хочаш – у 7 раніцы прыходзь, а хочаш – пад заслону. Тваё месца ніхто не зойме, – кажа гандлярка.







# 7:00 - 14:00

Час працы рынку райспажыўтаварыства ў Маладзечне

| | |
|---|---|
| 7:00 - 14:00 | Працуе кантралёр рынку |
| 7:00 - 9:00 | Уезд гандляроў на рынак |
| 14:00 - 17:00 | Выезд прадаўцоў з рынку |
| 16:00 - 7:00 | Працуе ахова |





Яна ў гандлі ўжо 35 гадоў. Каля 25 з іх працавала ў Маладзечне, таму добра арыентуецца ў сітуацыі.

– Памятаю, яшчэ да адкрыцця рынку людзі стаялі каля двух уваходаў. Каля шасці раніцы рынак адкрывалі – і пачынаўся забег. Не важна, ці ты тут ад дзвюх гадзін ночы стаіш, ці толькі што прыйшоў. Месца дастаецца тым, у каго ёсць здароўе і моцныя ногі. Прычым гэтыя шпарчэйшыя да таго часу, як ты дойдзеш, пазаймаюць яшчэ па тры-пяць ці болей месцаў для "сваіх". Даходзіла да таго, што праз агароджу пералазілі. І я так рабіла, бо а як інакш? – ускліквае Таццяна Мікалаеўна.

Яна прыгадвае тыя часы, калі на рынку не было ні павільёнаў з рэчамі, ні бакалеі. Тады была спецыяльная разметка, можна было заязджаць і гандляваць з машыны.

– Вось тады было больш-менш цывілізавана. Цяпер жа – паспеў заняць месца на прылаўку, а ў 8 гадзін прыйшоў кантралёр і папрасіў памяняць. А за гэты час іншыя ўжо ўсё пазаймалі. Можа, таму і гандлююць пад рынкам, што проста няма магчымасці прадаваць тавар на самім рынку праз гэтыя праблемы, – выказвае здагадку гандлярка.

На яе думку, адным з рашэнняў могуць быць вызначаныя месцы асобна для "расаднікаў", для тых, хто гандлюе кветкамі, і тых, хто прадае прадукты.

Другім рашэннем – абілечванне пры ўваходзе на рынак у парадку жывой чаргі. Прыйшоў першы – значыць, і магчымасць заняць месца атрымаеш першым. Дзясятым – значыць, дзясятым.

## Адміністрацыя рынку: месца хопіць усім

Дырэктар маладзечанскага рынку райспажыўтаварыства **Ганна Сіняўская** ведае і пра забегі на хуткасць, і пра займанне адразу некалькіх месцаў.

– Сёння пасля 8 раніцы кантралёр рынку прывёў усё ў належны стан, і палова прылаўкаў пуставала. Мы імкнёмся, каб зеляніна і іншая прадукцыя саду-агароду размяшчаліся на прылаўках. На зямлі пакідаем скрынкі з расадай – зямлю ж на стол не будзеш ставіць. Таму гандляры падчас адкрыцця рынку імкнуцца заняць лепшае месца, але кантралёр пасля можа падказаць, як зручней размясціць скрынкі, каб усім было дзе стаць. Пасля вылічваюць, якую плошчу займае гандляр, і той плаціць па вызначаным тарыфе.

**На рынку 254 месцы пад навесам і 120 гандлёвых месцаў за адкрытымі сталамі.**

Адзін метр складае адно месца за адкрытым прылаўкам, але некаторыя гандляркі займаюць толькі паўметра і каб плаціць менш, і таму што маюць няшмат прадукцыі. Для пенсіянераў і інвалідаў скідкі на арэнду гандлёвага месца не прадугледжаныя, таму для эканоміі проста займаюць менш месца.

Ганна Канстанцінаўна ведае, што раніцай некаторыя спрабуюць пралезці пад варотамі. Ахова часта вяртае іх назад, але, як кажа дырэктар арганізацыі, змяніць менталітэт не ў сілах работнікаў рынку.

Яна не падтрымлівае ідэю перадаплаты за канкрэтнае месца:

– Прыйдзе іншы чалавек і скажа, што таксама хоча яго заняць. Як тады паступіць?

Таксама адмоўна яна ставіцца да прапановы на ўваходзе выдаваць па чарзе квіткі, каб ужо з імі гандляры праходзілі на рынак і займалі месцы:

– Рынак – гэта не тэатр. Ніхто асобна кожнага гандляра вадзіць і ўладкоўваць не будзе. А як купіць квіток, пакуль не ўладкаваўся і не ведаеш, колькі месца зоймеш? Ад гэтага ж і цана залежыць.

Наконт прапановы выдзяляць асобна месцы для расады, кветак і іншай прадукцыі Ганна Канстанцінаўна адказвае, што нельга загадзя прадугледзець, колькі гандляроў якой прадукцыі з'явіцца ў пэўны дзень, і адпаведна, колькі месцаў пакідаць пад іх. Ёсць агульная класіфікацыя – "сельскагаспадарчая прадукцыя".

Што тычыцца прапановы паставіць больш прылаўкаў і падрыхтаваць месцы для сядзення, адміністратар лічыць, што пры патрэбе можна з сабой узяць раскладны табурэт.

Дырэктар ўпэўненая: размова аб тым, што на рынку не хапае месцаў і некаторыя вымушаныя прадаваць у неналежных, неабгрунтаваная. Усё прасцей: каб прадаваць на рынку, трэба мець пакет дакументаў: пасведчанне асобы, флюараграфію, даведку аб наяўнасці прысядзібнага ўчастка і даведку з ветэрынарнай лабараторыі. А калі зойме месца, то аплаціць кантралёру квіток.

– Калі мы праходзім з праверкай, то ні ў воднага з тых, хто стаіць за рынкам, няма дакументаў. Кажуць, што вырасцілі расаду на падваконні. Там гандлююць кошыкамі, садовымі бусламі, расадай з падваконня, кілбасамі і салам – і без дакументаў, таму што, каб зайсці на рынак, трэба мець усе даведкі.

Ганна Канстанцінаўна мяркуе, што адміністрацыя рынку аператыўна рэагуе на патрэбы гандляроў. Гэта натуральная справа для месца, дзе тавар залежыць ад сезона. Напрыклад, калі бывае вялікі наплыў садова-агароднай прадукцыі, то просяць гандляроў барахолкі часова не выходзіць, каб даць месца тым, чыю прадукцыю трэба тэрмінова і хутка распрадаць. Ці напрыклад, у перыяд сезоннага наплыву пэўнай прадукцыі, цяпер гэта расада, паміж крытымі радамі арганізоўваюць дадатковы рад са скрынак, каб змясціць як мага больш прадаўцоў.

На маладзечанскім рынку няма прыярытэту для маладзечанцаў – адкуль бы ні прыехалі, усе роўныя, і ўсім адміністрацыя дапамагае знайсці добрае месца.

**– Такога, каб мы кагосьці прыбралі з рынку, не знайшоўшы месца, няма. Гэта ж для нас саміх выручка.**

Ганна Канстанцінаўна не лічыць, што прадаўцы рэчамі замінаюць тым, хто прадае сельгаспрадукцыю:

– Я працую ўжо 12 год. Увесь гэты час тут прадавалі рэчы, і тып нашага рынку – змешаны. Мы ўсім знаходзім месца.

Дырэктар рынку нагадвае, што калі ёсць праблема, варта звяртацца спачатку да кантралёраў, а калі пытанне не вырашаецца, наўпрост да яе.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by



Настасся РОЎДА
nastya.rovdo@gmail.com

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 19.05 | 26.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 19 375,00 | **19 703,00** |
| Еўра | 21 823,00 | **21 965,00** |
| Злоты | 4 996,75 | **4 973,01** |
| Расійскі рубель | 297,71 | **299,03** |
| Грыўня | 762,33 | **786,11** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 25.05** | | |
| Еўра | 21500/21840 | **21800/22150** |
| Долар ЗША | 19220/19450 | **19650/19850** |

## ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 18.05 | 25.05 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 143 500 | **143 500** |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | **58 500** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 500 | **31 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 80 000 | **70 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 42 500 | **41 800** |
| Селядзец, 1 кг | 57 000 | **57 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | **135 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 500 | **14 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 21 500 | **21 500** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 16 500 | **16 500** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | **6 600** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 38 500 | **38 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 11 500 | **11 500** |
| Часнок, 1 кг (малады) | 75 000 | **59 500** |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 11 000 | **9 900** |
| Морква, 1 кг (маладая) | 13 500 | **13 500** |
| Баклажаны, 1 кг | 54 500 | **54 500** |
| Лімоны, 1 кг | 48 000 | **48 500** |
| Апельсіны, 1 кг | 22 000 | **24 900** |
| Мандарыны, 1 кг | 35 000 | **39 900** |
| Нектарыны, 1 кг | - | **48 000** |
| Абрыкосы, 1 кг | - | **48 000** |
| Ківі, 1 кг | 28 500 | **29 900** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 30 000 | **29 000** |
| Агуркі, 1 кг | 15 900 | **15 900** |
| Перац, 1 кг | 74 900 | **74 900** |
| Радыска, пучок | 14 900 | **5 000** |
| Кабачок, 1 кг (малады) | 16 900 | **19 900** |
| Клубніцы, 1 кг | - | **60 000** |
| Чарэшні, 1 кг | - | **90 000** |
| Вінаград, 1 кг | 40 000 | **40 000** |
| Бананы, 1 кг | 27 000 | **26 900** |
| Гранаты, 1 кг | 34 500 | **34 500** |
| Яблыкі, 1 кг | 13 000 | **13 000** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 32 900 | **32 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 16 900 | **12 900** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | **20 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

## Трохгадовую Ангеліну вярнулі ў сям'ю

МАЛАДЗЕЧНА

**Чым скончылася гісторыя, якую мы распавядалі ў папярэднім нумары "РГ".**

Ноччу 11 мая дзяўчынка адна, без бацькоў, босая і лёгка апранутая ішла па вуліцы ў раёне Бухаўшчыны. Яе заўважыў мужчына, які выгульваў сабаку. Ён патэлефанаваў у міліцыю, і дзяўчынку адвезлі ў бальніцу.

Біялагічнага бацьку дзяўчынкі знайшлі адразу. Але яго бацькоўства не афармленае афіцыйна, таму міліцыя яшчэ некалькі дзён шукала маці.

Пасля таго як яна знайшлася, рашэнне вяртаць ці не Ангеліну ў сям'ю прымала камісія па справах непаўналетніх Маладзечанскага райвыканкама.

Пасяджэнне прайшло ў аўторак, 24 мая.

– Маці Ангеліны раскайваецца, плача, – распавяла намесніца старшыні камісіі **Вольга Клепакова**. – Казала, што ночы не спала, перажывала. Яна ж сама сірата. Дзяўчынку мы вярнулі. На самой справе, сям'я не праблемная. У іх двухпакаёвая кватэра, мэбляваная, запазычанасцяў па камунальных плацяжах няма, поўны халадзільнік яды.

Вольга Клепакова адзначыла, што ўпершыню гэта сям'я трапіла ў сітуацыю, калі мусіла ўмяшацца камісія па справах непаўналетніх.

– Мы не настойваем на тым, каб вырваць дзіця з сям'і, – патлумачыла намесніца старшыні камісіі па справах непаўналетніх. – Сапраўды, у жыцці рознае можа здарыцца. На гэты раз мы папярэдзілі, што калі сітуацыя паўторыцца, то рашэнне можа быць іншым.

Як зазначае Вольга Клепакова, сям'і ўсяляк будуць дапамагаць. І з тым, каб Ангеліну адправіць у садок, і з тым, каб уладкаваць Вікторыю, яе маці, на работу. З папярэдняй жанчына звольнілася, калі зацяжарала.

**Настасся РОЎДА.**

## У Крыніцы збілі лася

МАЛАДЗЕЧНА

**Каля 23 гадзін 19 мая кіроўца аўтамабіля "Мазда", які рухаўся з боку Мінска па трасе Мінск-Маладзечна, не паспеў заўважыць лася, які раптоўна выскачыў на дарогу.**

Ад удару жывёла загінула.

Пра здарэнне расказаў намеснік начальніка Маладзечанскай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Пётр Цывілька.**

– Кіроўца расказаў, што ён ехаў з дапушчальнай хуткасцю, калі жывёла выскачыла на дарогу, не паспеў зрэагаваць. Машына пацярпела не моцна: разбітае шкло і памяты бок.

Кіроўца шкоду навакольнаму асяроддзю выплачваць не будзе.

– Таму што там не стаіць знака, які папярэджвае пра дзікіх жывёл, – тлумачыць Пётр Цывілька. – Інакш кіроўца быў бы абавязаны выплаціць 300 базавых велічынь, а сёння гэта 63 мільёны. Плюс кошт самой жывёлы, якая разлічваецца ў залежнасці ад полу і ўзросту жывёліны. Пры гэтым і самому кіроўцу страхоўку не выплацяць.

Пётр Цывілька просіць кіроўцаў быць уважлівымі на гэтым участку дарогі, паблізу Крыніцы.

– Там месціцца Маладзечанская паляўнічая гаспадарка, непадалёк пераход жывёл, таму такія выпадкі, калі жывёла можа выскачыць на дарогу, могуць здарацца.

А няшчаснага лася, збітага ў чацвер, перададуць на мясакамбінат.

**Наталля ТУР.**





# Дзе сёлета можна купацца

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёлета на Маладзечаншчыне дазволена купацца ў пяці вадаёмах.**

Гэта Удранка побач з гарадскім пасёлкам Радашкавічы, вадаёмы санаторыя "Сасновы бор", у аграгарадку Беразінскае, побач з аграгарадком Хажова, вадаёме дома адпачынку "Алеся".

На іншых вадаёмах Маладзечаншчыны купацца забаронена.

Нягледзячы на тое, што купацца ў вадаёме каля вёскі Насілава, былых кар'ерах Ізабеліна і каля дачных кааператываў вёскі Мароські забаронена, тонуць там амаль штогод.



Фота nothinggreatiseasy.com.

**Калі вы няўпэўнена плаваеце – плывіце ўздоўж берага альбо ў накірунку да яго.**

### Дзе часцей за ўсё танулі за апошнія 15 гадоў

| Месца здарэння | Колькасць выпадкаў |
|---|---|
| Дома ў ванне | 19 |
| Рака Уша | 16 |
| Вадаём у вёсцы Насілава | 13 |
| Вадаёмы каля дачных кааператываў вёскі Мароські | 11 |
| Канал Вілейска-Мінскай воднай сістэмы | 10 |
| У штучных вадаёмах каля дома | 9 |
| Кар'ер Ізабеліна | 7 |
| Васькаўскае вадасховішча | 5 |
| Вадаём каля вёскі Крыніца | 4 |
| Рэчка і вадаём каля вёскі Гарадок | 4 |

### Правілы купання, якія выратуюць вам жыццё

Ад 23 і да 30 мая на Маладзечаншчыне праходзіць тыдзень бяспекі на водах. У гэты час на прадпрыемствах, установах адукацыі праходзяць гутаркі наконт правілаў паводзінаў на вадзе. Мы таксама нагадаем правілы, якіх трэба прытрымлівацца, каб выратаваць сваё жыццё:

1. Не рэкамендуецца купацца ў небяспечных і забароненых для гэтага месцах (побач з гідразбудаваннямі, у былых кар'ерах, у месцах са складаным рэльефам дна, абрывістымі і абмытымі берагамі, хуткім цячэннем, вірамі і інш.).

2. Калі вы купаецеся ў незнаёмым месцы, чалавек, які добра плавае, павінен даследаваць рэльеф дна. Дно павінна быць без ямаў, вострых камянёў, шкла і іншых небяспечных прадметаў.

3. Не купайцеся ў месцах, зарослых водарасцямі. Калі вы не ўпэўненыя ў сваім уменні трымацца на вадзе, пацікаўцеся пра стан вадаёма ў мясцовых жыхароў альбо іншых адпачывальнікаў.

4. Знаходзячыся ў вадзе, вытрымлівайце тэмпературны рэжым цела. Уваходжанне і скокі ў ваду ў разгарачаным і ўзбуджаным стане, у выніку рэзкага перападу тэмпературы могуць прывесці да спазма сасудаў, у тым ліку галаўнога мозга і сэрца. Перш чым акунуцца, змачыце галаву вадой. Калі не хочаце мачыць валасы, увaходзьце ў ваду паступова. Не знаходзьцеся доўга ў вадзе, гэта можа прывесці да пераахаладжэння.

5. Не ўваходзьце ў ваду, калі дрэнна сябе адчуваеце альбо ў стане алкагольнага ап'янення.

6. Не пакідайце дзяцей без нагляду.

7. Не заплывайце далёка ад берага. Не ўмееце плаваць – не заходзьце ў ваду вышэй за пояс. Няўпэўнена плаваеце – плывіце ўздоўж берага альбо ў накірунку да яго.

8. Не падавайце лжывыя сігналы аб дапамозе – у наступны раз вам могуць не паверыць.

9. Не выкарыстоўвайце для купання непрызначаныя для гэтага прадметы (надзіманыя матрацы, дошкі, аўтамабільныя камеры).

10. Не выкарыстоўвайце выратавальныя сродкі не па прызначэнні.

11. Не падплывайце блізка да маторных лодак, асабліва падчас іх руху.

12. Недапушчальныя гульні на вадзе, звязаныя з ныраннем і захопам чалавека, які купаецца.

13. Небяспечна ныраць з берага, лодак, катараў, прычалаў, мастоў і іншых збудаванняў у неправераных месцах.

14. Трапіўшы ў моцнае цячэнне, не плывіце супраць яго.

15. Трапіўшы ў вір, не губляйцеся, набярыце паболей паветра, нырніце па цячэнні і ўсплывіце на паверхню.

16. Пры сутаргах змяніце спосаб плавання, каб зменшыць нагрузку на зведзеныя мышцы, і плывіце да берага. Карысна мець пры сабе шпільку. Калі сутарга звяла мышцы – уколіце сябе ёй. Але не забудзьцеся прадэзінфікаваць ранку.

17. Непажадана купацца раней чым праз 1,5-2 гадзіны пасля таго, як вы паелі.

**Аляксандр СЕМАШКЕВІЧ, кіраўнік Маладзечанскага раённага таварыства выратавання на водах.**

## Непаўнагадовы хлопец прывёз у Вілейку псіхатроп

ВІЛЕЙКА

**Выязное пасяджэнне суда Вілейскага раёна адбылося 28 красавіка ў Вілейскім дзяржаўным каледжы.**

Суд разгледзеў крымінальную справу па абвінавачанні жыхара Даўгінава 1998 года нараджэння. Працуе ён у таварыстве "Даўгінава", раней не судзімы.

Пачалося ўсё 11 снежня мінула года ў Мінску. Каб набыць псіхатропнае рэчыва, хлопец на тэлефоне перапісваўся ў Інтэрнэце з неўстаноўленай асобай. Пералічыў на нумар электроннага кашалька EasyPay 250 тысяч рублёў. Потым ва ўмоўленым месцы набыў высушанае здробненае жоўта-карычневае рэчыва раслiннага паходжання масай каля грама. Яно змяшчае ў сваім складзе асабліва небяспечнае псіхатропнае рэчыва.

Рэчыва паклаў у кішэню курткі і ў той жа дзень прывёз туды, дзе жыў – у пакой інтэрната №1 вілейскага каледжа. Частку выкурыў, а астатнюю захоўваў у пакоі. Пакуль позна ўвечары рэчыва не знайшлі і не канфіскавалі праваахоўнікі.

– Хлопец сваю віну ватасць у здзяйсненні злачынства прызнаў цалкам, – кажа памочнік пракурора Вілейскага раёна **Наталля Стрэж**. – Ён ведаў і ўсведамляў, што набывае, перавозіць і захоўвае "курыльную сумесь", што яна з'яўляецца забароненым да абароту і аналагам асабліва небяспечнага псіхатропнага рэчыва. У зробленым раскаяўся.

Дзеянні абвінавачанага кваліфікавалі як незаконныя без мэты збыту набыццё, перавозка і захоўванне псіхатропных рэчываў.

Пры прызначэнні пакарання суд сярод іншага ўлічыў, што хлопец працуе, станоўча характарызуецца па месцы працы і здавальняюча па ранейшым месцы вучобы, чыстасардэчна раскаяўся. А таксама – што злачынства ён здзейсніў у непаўнагадовым узросце.

Суд прызначыў пакаранне ў выглядзе абмежавання волі на тэрмін адзін год восем месяцаў з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу.

– Неабходна адзначыць, што санкцыя часткі першай артыкула 328 Крымінальнага кодэкса Беларусі прадугледжвае пакаранне ў выглядзе абмежавання волі на тэрмін да пяці год або пазбаўленне волі на тэрмін ад двух да пяці год, – дадае Наталля Стрэж.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Таццяны КУРАЛОВІЧ.



Фота Таццяны КУРАЛОВІЧ.

Віталь і Ганна не пабаяліся ўзяць шлюб у маі. Яны ўпэўненыя, што сямейнае шчасце залежыць ад абаіх. Калі і муж, і жонка разумеюць адзін аднаго, ідуць на ўступкі, адносіны будуць трывалымі. Калі наадварот, то ніякія забабоны не перамогуць рознагалоссі ў сям'і.

### Колькі пар сёлета ў маі ўзялі шлюб



Фота Таццяны КУРАЛОВІЧ.

| Горад | Колькасць шлюбаў | Дата, калі ўзялі шлюбы |
|---|---|---|
| Астравец | 3 | 7, 16, 17 мая |
| Ашмяны | 3 | 13 мая,<br>21 мая – два шлюбы |
| Валожын | 4 | 7, 12, 13, 21 мая |
| Вілейка | 2 | 7, 24 мая |
| Маладзечна | 22 | Па чатыры шлюбы 21 і 25 мая, па тры шлюбы 4, 7, 13, 18, мая, па адным шлюбе 6, 20 мая. |
| Мядзел | 3 | 6, 14, 21 мая |
| Смаргонь | 13 | 3, 7, 13, 24 мая, па два шлюбы 20, 21 і 28 мая, тры шлюбы 14 мая |
| **Усяго** | **50** | **Найбольш 21 мая – 9** |

# Вяселле ў маі, у высакосны год, з жоўтымі кветкамі і ў адкрытых туфлях

## Маладзечанка здолела пераступіць праз усе вясельныя забабоны

МАЛАДЗЕЧНА

**Не выходзь замуж у маі – усё жыццё маяцца будзеш. Вяселле ў высакосны год – сям'ю чакаюць беды, хваробы, няшчасці. Не надзявай туфлі з адкрытым носам – сямейнае шчасце выцеча. Жоўтыя цюльпаны – веснікі разлукі.**

Многія нявесты хаця і гавораць, што не вераць у разнастайныя забабоны і прыкметы, аднак усё ж такі стараюцца асцерагацца вострых момантаў. Як гавораць, беражонага і бог беражэ.

Толькі не **Ганна**. Дзяўчына пайшла насуперак звыклым традыцыям.

### У маі сама прырода спрыяе шлюбам

– Я ўпэўненая ў тым, што шчасце залежыць ад самога чалавека, многае вызначанае лёсам, – разважае жанчына. – Калі, напрыклад, чалавеку суджана, каб цагліна звалілася на галаву, ён ніколі не патоне. А сямейнае шчасце залежыць ад абаіх, калі і муж, і жонка разумеюць адзін аднаго, ідуць на ўступкі, адносіны будуць трывалымі. Калі наадварот, такі шлюб доўга не пратрымаецца.

Як адзначае Ганна, мы пайшлі насуперак усім прыкметам, каб даказаць людзям, што шчасце заключанае ў нас саміх, а не ў даце вяселля.

– Шчыра прызнацца, напачатку думалі згуляць вяселле ў пятніцу 13 мая, – усміхаецца жанчына. – Аднак хваляваліся, што да гэтага часу адцвітуць дрэвы, таму не адчуем усяго харасства прыроды – распісаліся 6 мая.

Ганна ўпэўненая, што самі нябёсы ў маі спрыяюць шлюбам.

– Як верыць у прыкметы, што май не шчаслівы для вяселляў, калі сама прырода здзіўляе харасством, непаўторнасцю. Дрэвы надзяваюць беласнежны ўбор нявесты, з'яўляюцца першыя кветкі, вакол усё зялёнее. Калі так выглядае няшчасце, то я не разумею шчасця? – захапляецца жанчына.

### Задзейнічалі безліч спецыялістаў

Ганна працуе ў сферы вясельнага бізнесу, таму шматлікія знаёмыя, сябры не маглі не дапамагчы арганізаваць вяселле калегі.

– У мяне было такое ўражанне, што на маім вяселлі былі задзейнічаныя ўсе спецыялісты з Маладзечна, – усміхаецца жанчына. – Я была ўпэўненая, што ўсё пройдзе проста выдатна, нават не глядзелася ў люстэрка пасля таго, як зрабілі макіяж і прычоску. Ведала – гэтыя людзі падкрэсляць усе мае перавагі.

### Букет нявесты пачаў расці на вяселлі

Букет Ганна зрабіла сама з цюльпанаў, півоняў і гваздзікоў. Цікава было глядзець, як на працягу ўрачыстасці ён мяняўся на вачах. З маленькага ахайнага букеціка пачала ўтварацца клумбачка.

Кветкі літаральна раслі, яны настолькі насыціліся вільгаццю, што выцягнуліся за ўрачыстасць. Атрымалася нават больш крэатыўна.

Замест фаты нявеста была ў вянку з цюльпанаў. Госці дзівіліся, што такая прыгажосць зробленая з жывых кветак.

### Тыдзень дыеты, каб пакаштаваць торт

На дзявочнік сяброўкі Ганны замовілі торт. Ды такі, што ледзьве з пальцамі не з'елі. Як аказалася, што гэта ж кандытарка будзе рабіць торт і на вяселле.

Таму прыйшлося сяброўкам нявесты сядзець тыдзень на дыеце, каб зноў адчуць незвычайную асалоду. Такія мукі былі вартыя таго – ад торта не засталося і кавалачка.

– Нягледзячы на тое, што на вяселлі мы не прыслухаліся да старажытных забабонаў, усё ж такі было страшна, як усё пройдзе, ці спадабаецца гасцям, – расказвае пра клопаты Ганна. – Тады мама дала мне параду – гэта ў першую чаргу ваш дзень і ваша свята, таму, галоўнае, каб вам падабалася і вы былі шчаслівыя. Людзі, якія побач у гэты дзень, парадуюцца вашаму шчасцю, не заўважаць невялічкіх дробязяў. Таму атрымлівайце асалоду адзін ад аднаго і ад вяселля.



**Галіна СІНІЦА**
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

# Калі пройдуць апошнія званкі і выпускныя ў рэгіёне

**Апошнія званкі ва ўсіх сямі раёнах, у якіх выходзіць "Рэгіянальная газета", пройдуць у адзін дзень – 30 мая.**

А вось дзень для выпускнога кожны раён выбіраў у залежнасці ад запрошаных гасцей і вольных канцэртных залаў.

**МАЛАДЗЕЧНА**

Раённы выпускны адбудзецца 9 чэрвеня.

Сёлета ў Маладзечанскім раёне на залатыя і сярэбраныя медалі прэтэндуе больш за 50 выпускнікоў.

– Будуць і запрошаная зорка, і феерверк, – запэўнілі ў Маладзечанскім аддзеле адукацыі, – але што за зорка – пакуль сюрпрыз.

**МЯДЗЕЛ**

Раённы выпускны ў Мядзеле адбудзецца 11 чэрвеня. Раённае свята ў Мядзеле рыхтуецца сіламі выпускнікоў і дзяцей, якія адпачываюць на творчай змене ў лагеры "Зубраня".

Сёлета на залатыя медалі прэтэндуюць 7 выпускнікоў, на сярэбраныя – 1.

**АСТРАВЕЦ**

Выпускныя ў Астраўцы адбудуцца 10 чэрвеня для ўсіх, акрамя сярэдняй школы №1. У гэтай школе няма памяшкання, каб правесці ўрачыстасці, таму выпускнікі вымушаныя чакаць вольнай залы. У Астраўцы плануюць выпусціць 8 залатых медалістаў.

**ВІЛЕЙКА**

Юныя віляйчане таксама адзначаць свой выпускны 10 чэрвеня. З залатым медалём плануюць скончыць вілейскія школы 16 выпускнікоў.

**АШМЯНЫ**

І ў Ашмянах выпускныя вечары адбудуцца 10 чэрвеня. Канцэрт на плошчы таксама будзе ладзіцца сіламі саміх выпускнікоў.

– Без прыцягнення іншародных артыстаў, – сказалі ў Ашмянскім аддзеле адукацыі.

На залатыя і сярэбраныя медалі сёлета прэтэндуюць 20 выпускнікоў.

**ВАЛОЖЫН**

Раённы выпускны баль адбудзецца 10 чэрвеня на плошчы горада. Пачатак урачыстасцяў у 17 гадзін. Валожынцаў, якія прэтэндуюць на залаты медаль сёлета, – 17 чалавек, на сярэбраны – 2.

**СМАРГОНЬ**

У Смаргонскім раёне выпускныя балі таксама адгрымяць 10 чэрвеня. І раён сёлета ўраджайны на залатых медалістаў. Іх прагназуецца ажно 33. Два выпускнікі прэтэндуюць на сярэбраны медаль.

**Наталля ТУР.**

# Гімназісты атрымалі медалі за робатаў

**МЯДЗЕЛ**

**Ад 16 да 19 мая ў Мінску прайшоў заключны этап першага рэспубліканскага конкурсу JuniorSkills Belarus 2016.**

У ім прынялі ўдзел больш за сто вучняў з усёй рэспублікі ўзростам ад 10 да 17 год.

Яны спаборнічалі ў сямі намінацыях. У катэгорыі 10-13 год вызначыліся вучні гімназіі-інтэрната Мядзела.

У "Прамысловай робататэхніцы" залатыя медаль і дыплом першай ступені заваявалі **Вадзім Валасевіч** і **Арцём Чаўлытка**. Яны рабілі робат-маніпулятар, які павінны быў выканаць тры розныя па ступені складанасці заданні. Скажам, прачарціць лініі паміж кругамі дыяметрам два сантыметры.

У "Мабільнай робататэхніцы" бронзавы медаль і дыплом трэцяй ступені на рахунку **Андрэя Маліноўскага** і **Арцемія Месяца**. Яны стварылі робат-пагрузчык, які браў груз і перавозіў яго.

Дыпломамі ўзнагародзілі таксама трэнера настаўніка інфарматыкі гімназіі-інтэрната **Вячаслава Саўчыка**.

– Форум быў грандыёзны, праходзіў у футбольным манежы, – падзяліўся ён. – Дзецям было цікава, але і складана. Робатаў трэба было зрабіць з нуля – стаяла скрыня з дэталямі і паноўму іх збіралі. Тут жа людзі хадзілі, у тым ліку іншаземцы – цікавіліся.

Узнагароды і падарункі ўручаў міністр адукацыі Беларусі **Міхаіл Жураўкоў.**

Гэта не першы поспех мядзельскіх робататэхнікаў на конкурсах розных узроўняў. Прытым займаюцца яны гэтым толькі з лістапада мінулага года.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

• ЭТО ПОЛЕЗНО ЗНАТЬ

рэклама

# Кредитная история «от и до»: про автомобили, отпуск и цену вопроса

**Те белорусы, которые давно мечтали о собственной машине, с замиранием сердца следят, как падают цены на легковушки. Вдруг наконец-то получится купить авто мечты! Но, увы, даже с нынешним ценником такая дорогая покупка многим не по карману. Тем более, взять кредит на покупку машины не так уж и просто. Во-первых, большинство банков потребуют оставить автомобиль в залог, а значит, в итоге он все равно не будет вашим, пока вы полностью не выплатите долг. А во-вторых, практически всегда банк попросит привести поручителей, и тогда придется ко всему прочему напрягать родственников или друзей.**

Решение нашел Альфа-Банк, который начал выдавать автокредиты по пакетному принципу. Это означает, что в одном пакете собраны все преимущества, которые позволят быстро сориентироваться в конъюнктуре автомобильного рынка и воспользоваться выгодным предложением, даже если именно сейчас у вас не хватает денег на покупку нового авто.

По сравнению с аналогичными кредитами от других банков, у автокредита Альфа-Банка есть сразу несколько преимуществ.

**Во-первых**, в долг можно взять крупную сумму – от 50 до 300 миллионов рублей (а для тех, кто получает зарплату на карточку Альфа-Банка, до 400 миллионов). Причем это может быть как полная стоимость машины, так и доплата. По нынешнему официальному курсу максимальная сумма кредита равна 21,5 тысяче долларов. Вполне хватит на солидное новое авто! И, к слову, никаких ограничений по году выпуска машины нет.

**Во-вторых,** чтобы взять в Альфа-Банке автомобильный кредит, не понадобится ни искать поручителей, ни оставлять машину в залог у банка. Ведь если бы она была в залоге, ее нельзя было бы ни подарить, ни продать до тех пор, пока вы полностью не выплатили бы кредит. Кроме того, отсутствие залога не предполагает оформление обязательной дорогостоящей страховки автомобиля.

**А в-третьих,** Альфа-Банк банк предлагает взять такой кредит на длительный срок: 36 месяцев (три года), 48 месяцев (четыре года) или 60 месяцев (пять лет). Это означает, что ежемесячный платеж будет щадящим и у вас останутся свободные деньги на другие расходы. А еще этот кредит можно погасить досрочно.

Заполнить заявку на получение автомобильного кредита можно онлайн на сайте Альфа-Банка, а деньги получить наличными в кассе любого из отделений банка в 16 городах Беларуси. А еще тех, кто оформит автомобильный кредит, ждет подарок– 40 литров бензина, чтобы сразу залить бак в своем новеньком авто или на выбор стильный бумажник для водительских документов.

## ЕСТЬ ВОПРОС: Какую кредитку лучше взять в отпуск?

Возвращаться из отпуска всегда непросто, в том числе и с финансовой точки зрения – зарплата и отпускные потрачены и, как минимум, целый месяц приходится жестко экономить. В этой ситуации ваш лучший друг и донор – кредитная карточка. И здесь надо внимательно смотреть на условия. Тем более, если и в поездке вы пользовались кредитной карточкой, а после отпуска надо возвращать долги.

Реальный выход для тех, кто привык пользоваться кредитной карточкой и собрался на отдых – оформить в Альфа-Банке кредитную карточку «На рефинансирование», с помощью которой можно погасить долг по старой кредитке другого банка, сохранив прежний кредитный лимит.

Здесь главный бонус – минимально возможный и практически незаметный уровень обязательного ежемесячного платежа. Кроме процентов, по кредитке Альфа-Банка он составляет всего 2% от суммы фактического долга, так что ее обслуживание не будет обременительным для личного бюджета, особенно когда вы вернетесь из отпуска. И еще один важный момент: за саму карточку и ее обслуживание платить не нужно. К тому же она выдается сразу на месте, в день подписания кредитного договора – то есть вам не придется ждать неделю, пока карточку оформят и выпустят.

## А В ЭТО ВРЕМЯ Ставки по кредитам снизились на 6-8%

Теперь взять взаймы в Альфа-Банке можно по ставке от 39% годовых (речь идет о кредитах «от и до», «Альфа-Промо», «На рефинансирование»). При этом помимо сниженной ставки ежемесячные платежи можно уменьшить за счет длительного срока.

Чаще всего, белорусские банки могут предложить кредит на срок не более 2-3 лет. А в Альфа-Банке кредит можно взять на длительный срок – до 5 лет. Это означает, что ежемесячный платеж будет значительно меньше, чем если бы это был кредит, скажем, на 3 года. Кроме того, платежи по этим кредитам – аннуитетные: то есть распределяются в равных долях между месяцами. В итоге можно без проблем распланировать свой бюджет, зная, сколько именно придется возвращать банку хоть через год, хоть через два.

**Источник kp.by.**

УНН 101541947



# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-2105 на хаду ў добрым стане. Т. (8-025) 6753221.

• ВАЗ-2106, нядорага. Т. (8-029) 5753932.*

• ВАЗ-2107, 2007 г.в. Т. МТС (8-029) 7602038.

• Гольф-4, 2001 г.в, прабег па РБ 3 000 км, з Германіі. Абмен. Т. (8-029) 8817064.

• Мерсэдэс-409 Д (катэгорыя С) альбо абменяю на УАЗ з прычэпам ці без. Т. Вэлком (8-044) 7320113.

• Міцубісі-Карызма, 1995 г.в., 1,6 бензін, добры стан, нядорага. Т. (8-029) 68665329, (8-033) 6862629.*

• Опель-Амега, 1991 г.в, 2,3 TДI; Мазда-626 купэ, 1987 г.в, па запчастках. Т. (8-033) 3363343.*

• Пежо-405, 1993 г.в, 1,6 г/б. Т. (8-033) 6379952.*

• ФВ-Т2, легкавы, дызель 1,6. Т. (8-029) 8609061.*

• Фольксваген-Шаран, 2001 г.в., 1,9 TДI, не біты, не фарбаваны, адзін гаспадар, 120 млн. Т. (8-029) 1925603, (8-033) 3352910.*

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. ЧСУП “АРТАлексСэрвіс” УНП 690639270.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

## КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• Аўтамабіль да 20 000 000 руб. Тэрмінова! Т. (8-029) 8817064.

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*

• Аўтамабіль у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*

• Аўто ў любым стане, з любымі праблемамі, тэрмінова. Т, МТС (8-033) 3746842.*

• Аўто, іншамарку, да 30 000 000 руб. Т. МТС (8-033) 6046932.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

## ПАСЛУГІ

• Паслугі міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. Каналізацыя. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*

• **АРЭНДА ЭКСКАВАТАРА-ПАГРУЗЧЫКА. УСЕ ВІДЫ ЗЕМЛЯНЫХ РАБОТ. ТАА “МОЛТРАНС” УНП 691503225. Т. (8-029) 3773887.***

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібраплітa 500 кг, траншэекапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*

• Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмуркі і г.д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• **ЭВАКУАТАР. ТЭХДАПАМОГА. КРУГЛАСУТАЧНА. ТАА “МОЛТРАНС” УНП 691503225. Т. (8-029) 7448448.***

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-033) 6639658.

• 2-павярховы катэдж у в. Чысць з усімі выгодамі, 107 кв.м (2 хлявы, гараж з ямай) альбо мяняю на 2-пакаёвую кватэру ў горадзе і дом ці кватэру ў в. Краснае ці Радашкавічах. Разгледзім любыя варыянты. Т. Лайф (8-029) 7528450, хатні (8-0176) 772234.

• 2-пакаёвая кватэра ў г. Смаргонь, цагляны дом, 6/9 пав., побач супермаркет “Еўраопт”. Т. (8-0176) 776781, (8-044) 7976895, (8-029) 9761893.*

• 2-пакаёвая кватэра ў г.п. Івянец Валожынскага р-на, 3/3 цэгла, 51,4 кв. м, санвузел раздзельны, вокны ПВХ. Патрабуецца невялікі рамонт. Т. (8-033) 6615522.

• 2-пакаёвая кватэра ў Даўгінаве Вілейскага р-на, цана дагаворная. Т. (8-029) 5204196.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Замкавай, 56; 3/5, агул. пл. 50,6 кв. м, 1986 г., без пасярэднікаў. Т. (8-029) 3659578.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6536317.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Касманаўтаў, д.11, 4/5, 61 м², с/в раздзельны. Т. (8-0176) 775791, (8-0176) 741594, (8-033) 3781176, (8-033) 3786807.

• Гараж, гаражны кааператыў НР 12, 70 000 000 руб, торг. Маладзечна. Т. (8-029) 8531181.

• Дача, ст. Кардон, 10 км ад Вілейкі. Лес, рака. Вілейка. Т. (8-033) 6077164.

• Дача ў в. Прынта Вілейскага р-на. Т. (8-029) 9074111, (8-01771) 54993.

• Дача ў Лазаўцы. Т. (8-0176) 590906.*

• Дача ў СТ “Агеньчык” (3,5 км ад в. Краснае), водаправод, электрычнасць. Нядорага. Т. (8-0176) 548035, (8-029) 9751135.

• Дом №38 у в. Урэчча Вілейскага р-на. Ёсць вялікі хлеў, лазня, калодзеж, гараж. 70 000 (8-01771) 48484, (8-029) 1644055.*

• Дом драўляны 1965 года ў г.п. Свір Мядзельскага р-на, карысная плошча 60 кв.м, гаспабудовы, прысядзібны участак 0,15 га. Т. Вэлком (8-029) 9403452.

• Дом драўляны ў вёсцы ў Валожынскім р-не, добры стан, пяць пакояў, лазня, павець для дроў. Побач лес, возера. Нядорага. Т. (8-033) 3949384.*

• Дом жылы, драўляны ў Залессі Смаргонскага р-на, ёсць калодзеж. Т. (8-029) 2796974, (8-044) 7670754.*

• Дом з участкам у в. Насілава. Т (8-029) 2697533.*

• Дом на станцыі Гудагай. Т. (8-029) 2883970, (8-029) 1505888.*

• Дом у а/г Крывое Сяло Вілейскага р-на. 50 кв. м, кухня, летні пакой, два пакоі, ёсць лазня і гаспадарчыя пабудовы. Газавае ацяпленне. Падведзеная вада. 1 км ад Вілейскага вадасховішча. Т. (8-029) 1634478.

• Дом у а/г Нарач, гаспабудовы, 50 сотак. Мядзел. Т. (8-029) 6532331.

• Дом у в. Куранец. Больш за 100 кв.м, зямельны участак 40 сотак. 90 000 000 руб. Торг. Т. (8-029) 5609402, (8-029) 5609398.

• Дом у в. Рэчкі Вілейскага р-на. Калодзеж, лазня, склеп, гаспадарчыя пабудовы, участак 20 сотак. Грыбныя і ягадныя мясціны. Т. (8-029) 7494196, (8-029) 2567839.

• Дом у в. Цынцавічы Любанскага с/с, можна на дачу. Ёсць сад, агарод, калодзеж, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-01771) 56010, (8-029) 5644936.*

• Дом у вёсцы Папоўцы Вілейскага р-на. Т. (8-029) 8587518.*

• Дом у Вілейцы з усімі выгодамі і ўчасткам. Т. (8-029) 5358791.

• Дом у Вілейцы. Т. (8-029) 3999382.*

• Дом у Маладзечне 70/53/30, 8,4 зямлі, выгоды, газ, гараж. Т. (8-029) 2608541.*

• Катэдж у Вілейцы, 80% гатоўнасці, дом у в. Кузьмічы. Т. (8-029) 7717436.*

• Участак зямельны са зрубам. Прыгарад Вілейкі. Т. (8-029) 6672413.*

## ЗДАМ

• Гараж у Маладзечне па вул. Міру, 6х8. Т. (8-029) 5753932.*

• 3-пакаёвую кватэру ў Маладзечне па вул. Будаўнікоў. Т. (8-029) 8500258.*

## ЗНІМУ

• Кватэру з мэбляй. Т. (8-029) 7764214.

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

• Музычнае суправаджэнне вяселляў, юбілеяў. Баян. Валынка. Адэкватная цана. ІП Ярук С.П. УНП 690696231. Т. (8-029) 7758341.*

• Музычнае суправаджэнне юбілеяў ,вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• Фота і відэаздымка вяселляў, аблічбоўка відэакасет. ІП Чарняўскі С.В. УНП 691396671. Т. (8-029) 3305452, (8-029) 7686148.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Бус,1,5 т, нядорага. ПУП “Дойлід-С” УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Грузаперавозкі. Пераезды – кватэрныя, дачныя. Вываз смецця. Арэнда грузавога транспарту кат. “В”. ПП “ОЛВіК ГРУПП” УНП 690536314. Т. (8-029) 9549681, (8-029) 7696956.*

• Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• **МЕРСЭДЭС, 5Т, 36 КУБ.М. ТАА “МОЛТРАНС” УНП 691503225. Т. (8-029) 2632663.***

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Абшыўка дамоў сайдынгам, блокхаўсам, вагонкай. Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723.*

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (балансе), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Адпачынак на хутары. Руская лазня, альтанка, традыцыйная кухня, футбольная і валейбольная пляцоўкі, рыбалка. Сайт: www.usadyba.wix.com/rodnik. Т. (8-029) 7024924 .*

• Андулін. Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі. **ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. Вэлком (8-029) 1287878, (8-029) 7860317.*

• Выконваю **ЎКЛАДКУ ПЛІТКІ і АБЛІЦОЎКУ СЦЕН**. Выраўноўванне сцен і падлогі пад плітку. ІП Леган А.С. УНП 691888682. Т. (8-029) 7709929.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блок-хаўс, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• **ДАХАВЫЯ РАБОТЫ**. Замена шыферу. Уцяпленне. Сайдынг. ІП Шароў І.В. УНП 691886664. Т. (8-029) 3525571, (8-029) 5984301.

• Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 5544175, (8-029) 3469417.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архіваязнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамажа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Поручні (перила), навесы, агароджы (з чорнага металу і нержавеючай сталі). ІП Конан А.Л. УНП 691396245. Т. (8-029) 7665311, (8-029) 5039881.*

• Разныя вырабы: vk.com/album 297080687_229930164. УНП КА 8273795. Т. (8-025) 5080428. *

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага,36. Наяўны і безнаяўны разлік. www.mivcomputevov.dy ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт халадзільнікаў пенсіянерам. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Рамонт, выраб розных металавырабаў, варот, брамак, лавак, сталоў, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Магчыма з элементамі халоднай коўкі. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Рамонт, дробны рамонт дома, дачы. Вываз смецця (бытавое, будаўнічае). ІП Конан А.Л. УНП 691396245. Т. (8-029) 7665311, (8-029) 5039881.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА, ПАКУЛЬ НЕ ПОЗНА.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Тынкоўвачныя (штукатурные) работы. ІП Сяргушка Д.С. УНП 691887433. Т. (8-029) 3379929.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*







**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб’яў

**Маладзечна** Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.**
**Астравец** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.**
**Ашмяны** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.**
**Валожын** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.**
**Вілейка** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.**
**Вілейка** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.**
**Мядзел** вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.**
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.**
**Чысць** вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.**

* *Аб’явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# “Нас прадалі у Францыю за зброю”

## Мой дзядзька ваяваў у Першую сусветную на Заходнім фронце

*Заканчэнне. Пачатак у №№19, 20, 21*

**26 красавіка споўнілася роўна сто год з таго дня, калі першая брыгада Рускага экспедыцыйнага корпуса прыбыла ў Марсель для ўдзелу ў вайне з Германіяй на баку Францыі.**

Шаколы жылі спакойным ціхім жыццём, стараліся быць у роўных адносінах з усімі людзьмі і нікому не пераходзіць дарогу. Тым больш, што Казіміра неяк выклікалі ў адпаведны кабінет, гаспадар якога парэкамендаваў дзядзьку “пра Рускі экспедыцыйны корпус забыцца, не высоўвацца і не мазоліць вочы”.

Напрыканцы 30-х гадоў сям’я атрымала невялікую двухпакаёвую кватэру ў паўпадвальным памяшканні трохпавярховага дома дарэвалюцыйнай пабудовы, якая стала пастаянным жытлом у Армавіры.

Надзея ў 1958 годзе гасцявала ў дзядзькі і ёй спадабалася ўтульнасць пакояў і адсутнасць сырасці, якая часта бывае ў сутарэннях. Адно крыху засмучала – што праз вокны можна было бачыць толькі ногі людзей, якія праходзілі міма, а не ўсю постаць.

### Новая вайна

Спакойнае ўраўнаважанае жыццё зноў парушыла вайна. Армавір быў пад нямецка-фашысцкай акупацыяй ад 7 жніўня 1942 года да 23 студзеня 1943.

Гітлераўцы за паўгода ператварылі горад у руіны, большасць прадпрыемстваў, жылыя дамы, чыгуначная магістраль былі ўзарваныя і спаленыя, многія загінулі.

Сям’я Казіміра ацалела, не пацярпела і іх кватэра, хаця верхні паверх дома быў часткова разбураны. Пасля вызвалення жыхары, у іх ліку і Шаколы, рашуча аднаўлялі свой горад: адрадзілі заводы і фабрыкі, транспарт, камунікацыі, жыллё.

Ужо ў 1950-х гадах Армавір у асноўным узнавіў даваеннае і набыў новае аблічча.

Валя Шакола скончыла школу і падала дакументы ў тэхнікум сувязі ў Адэсе.

### Валя стала радысткай

Атрымаўшы дыплом, у 1947 годзе ўладкавалася радысткай суднаў далёкага плавання ў Чарнаморскім марскім параходстве Адэсы. Адпрацавала суднарадысткай каля чатырох гадоў, аднойчы нават зведала караблекрушэнне, у выніку чаго яе параход “Падольск” затануў у некалькіх дзясятках міль ад кітайскага берага. Пасля ўвесь час працавала начальніцай пошты Адэскага марскога вакзала.

Падарожнічаючы па інтэрнэце, я выпадкова натыкнуўся на нарыс пісьменніка Уладзіміра Каткевіча “Шкілет з капітанскага рундука”, напісаны на падставе ўспамінаў сябра “Сусветнага клуба адэсітаў” былога штурмана “Падольска” **Віктара Уладзіміравіча Крума** пра гэту аварыю. Адной з дзеючых асоб дакументальнага твора з’яўлялася мая стрыечная сястра Валянціна.

Да апісанага ў апавяданні ад сябе дадам наступнае. Расказваючы аб гэтым здарэнні мне і Надзеі, Валянціна казала, што, калі пакідала карабель, ёй прыйшлося ўжо выходзіць амаль па калені ў вадзе.

### Выйшла замуж за марака кітабойнай флатыліі

У Адэсе спярша Валя жыла і на прыватнай плошчы, і ў ведамасных памяшканнях, а ў пачатку 60-х пабудавала двухпакаёвую кааператыўную кватэру ў новым доме па вуліцы генерала Пятрова, у так званых адэскіх Чаромушках. Там і пражыла ўсе свае наступныя гады. Нейкі час была замужам за мараком кітабойнай флатыліі “Слава”.

У сям’і нарадзілася дзяўчынка, жыццё якой аказалася нядоўгім: у чатырох-пяцігадовым узросце яна памерла ў выніку ўскладнення прастуднай хваробы. Пасля гэтага ў хуткім часе распаўся і шлюб. Валянціна больш замуж не выходзіла.

### Стаў лазеншчыкам

Што тычыцца дзядзькі Казіміра, дык ён, дасягнуўшы ўзросту, у 1955 годзе выйшаў на пенсію і перайшоў на працу лазеншчыкам у армавірскую гарадскую лазню. У гэтым жа годзе рашыўся паехаць на радзіму. Ехаў з трывогай: а ці застане братоў жывымі? З друку і радыё ён ведаў, якая жорсткая навала прайшлася па родных мясцінах, колькі вёсак разам з жыхарамі спалена і разбурана на Лагойшчыне. А ці ацалелі, ці адрадзіліся Сцюдзянец, Аўгустова, Усяж, Плешчаніцы і іншыя пасяленні, якія захаваліся ў яго памяці?

> Гісторыя Першай сусветнай вайны для пераважнай большасці расіян і беларусаў – забыты і малавядомы перыяд.
>
> Подзвігі і ахвярнасць нашых воінаў у той вайне на доўгія гады апынуліся ў забыцці.

Па прыездзе трывога змянілася радасцю сустрэч. Браты Амбрук і Гіляр жывыя, пасля вайны адбудаваліся: першы на Усяжы, другі ў Сцюдзянцы. У абодвух – сем’і: дзеці, унукі. Адным словам, усё нармальна. Шкада толькі, што да малодшага брата Валькі ў Ашмяны цяпер ён не з’ездзіць, бо канчаецца водпуск.

Але на наступны год наведаецца абавязкова. І сапраўды, ужо летам 1956 года мы сардэчна віталіся з Казімірам у нашым ашмянскім доме на Камсамольскай вуліцы, з чаго я і пачаў сваё апавяданне.

### Доўгачаканыя сустрэчы

У 1958 годзе Надзея атрымала ў школе водпуск і з’ездзіла ў Адэсу да Валянціны. Праз пару дзён Валя правадзіла яе на параход да Туапсе, а адтуль ужо цягніком сястра даехала да Армавіра. Пазнаёмілася з цёткай Дар’яй – жонкай дзядзькі Казіміра, жанчынай душэўнай, гасціннай, добразычлівай і ветлівай, якая была вельмі рада бачыць Надзю і завіхалася каля яе, шчыра прапануючы нейкія прысмакі і прыгожыя рэчы. Тлумачыла, што яна першы родны чалавек, хто завітаў да іх, а дагэтуль жа нікога не было.

З Армавіра ў Беларусь паехалі разам з дзядзькам. Дамовіліся, што, прыбыўшы ў Ашмяны, возьмуць з сабой нашага бацьку і ўжо ўтраіх паедуць да Амбрука з Гілярам, бо тата ж з імі не бачыўся аж з 1945 года. Так і зрабілі: перадыхнуўшы дзень-другі ў нас, выправіліся на Лагойшчыну. Спачатку – Усяж, а назаўтра выехалі ў Сцюдзянец да Гіляра.

Праз столькі год усе чатыры браты сабраліся разам. Наладзілі застолле, пасядзелі добра: было што ўспомніць і абмеркаваць. Развітаўшыся, раз’ехаліся: Казімір – на Кубань, Надзя з татам – у Ашмяны.

У 1965 годзе памерла Казімірава жонка, цётка Дар’я, і дзядзька пераехаў жыць да дачкі ў Адэсу, у яе кааператыўную кватэру.

У 1960-70-х Казімір яшчэ двойчы разам з дачкой Валянцінай прыязджаў да нас у Ашмяны і да Надзі ў Кальчуны. Дзядзьку вельмі спадабаўся Надзін муж Іосіф, яго ігра на гармоніку, асабліва беларускія мелодыі, якія вярталі Казіміра ў далёкую маладосць, узнаўлялі мілыя сэрцу карціны тых часоў, і ён прасіў Юзіка іграць яшчэ і яшчэ.

Падчас другога наведвання яны сустрэліся і пазнаёміліся з нашай Альбінай, якая разам з мужам і дзецьмі спецыяльна прыехала на тое спатканне з Ленінградскай вобласці.

У далейшым стасункі паміж намі не перарываліся. Абменьваліся лістамі, паштоўкамі, ездзілі ў Адэсу і сем’ямі, і паасобку. Часцей за ўсіх у Валянціны з дзядзькам бывалі бацька і брат Віктар. Наш тата ў 70-х гадах суправаджаў гатовую прадукцыю Сольскага гароднінасушыльнага завода, дастаўляў яе вагонамі спажыўцам у розныя пункты Савецкага Саюза. Дык на зваротным шляху стараўся заўсёды адведаць старэйшага брата з пляменніцай.

А Віця колькі разоў па курсоўцы падлечваўся ад дыябету ў Адэсе, у санаторыі імя Горкага, яшчэ завочна заканчваў аспірантуру ў Адэскім дзяржуніверсітэце, і, прыязджаючы на лячэнне ці вучобу, жыў у Валі.

### “Папусік”

Асабіста я быў у Адэсе два разы: у 1977 і 1979 гадах. Дзядзьку было за 80. Калі ў 1977 годзе ён яшчэ хоць крыху, трымаючыся за штo-небудзь, імкнуўся стаць на ногі і стараўся зрабіць хоць два-тры крокі па пакоі, то праз год ён ужо не хадзіў і нават не стаяў.

Затое сам еў прыгатаваную і пададзеную дачкой страву, мог самастойна сесці, спусціўшы з ложка ногі ўніз. Але памяць яго ўжо моцна падводзіла, і ён не мог задаволіць мяне адказамі на нейкія канкрэтныя пытанні аб мінулым жыцці і падзеях даўніх часоў. Бягучы ж момант і сучасныя з’явы Казімір асэнсоўваў нармальна.

Валянціна вельмі любіла свайго бацьку і называла яго па-руску, яны ж былі рускамоўнымі людзьмі, не іначай як “папочка”, “папусик”, як магла найлепш берагла яго здароўе, пры неабходнасці звярталася па дапамогу да добрых знаёмых – дактароў і медсясцёр. Старалася карміць Казіміра толькі свежымі якаснымі харчамі: мяса, мора- і малочныя прадукты набывала ў “сваіх” прадаўцоў, у меню пастаянна была нават чорная ікра.

Так у клопаце і ласцы дзядзька Казімір пражыў трохі больш за 90 год і памёр у другой палове васьмідзесятых. Валянціна сышла ад нас на 64 годзе жыцця ў пачатку 1990-х гадоў.

Заканчваючы нататкі аб лёсе дзядзькі Казіміра Шаколы, хачу сказаць, што гэта ўсяго толькі часцінка звестак аб згубленых у часе тысячах былых салдат Рускага экспедыцыйнага корпуса ў Францыі. Гісторыя Першай сусветнай вайны для пераважнай большасці расіян і беларусаў – забыты і малавядомы перыяд. Подзвігі і ахвярнасць нашых воінаў у той вайне на доўгія гады апынуліся ў забыцці.

А сама Першая сусветная, якую ўвесь свет заве Вялікай, была выкрасленая з айчыннай гісторыі, называлася проста імперыялістычнай. Памяць продкаў вымагае ад нас: гісторыя ваенных падзей пачатку мінулага стагоддзя, у якой гераічнае цесна пераплялося з трагічным, павінна быць аднолькавай ва ўсёй магчымай паўнаце.

**Пётр ШАКОЛА, Ашмяны.**

---

**КАЛЯНДАР**

30 МАЯ

**120 гадоў** з дня нараджэння Канстанціна Саннікава (1896 – 1965), рэжысёра, акцёра і педагога, народнага артыста Беларусі.

1 ЧЭРВЕНЯ

**Міжнародны дзень абароны дзяцей.**

**70 гадоў** з дня нараджэння (1946) Генрыха Далідовіча, беларускага пісьменніка, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа за раман “Гаспадар-камень”, Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа. Скончыў філфак БДУ. Працаваў у аддзеле прозы часопіса “Полымя”, намеснікам галоўнага рэдактара, галоўным рэдактарам часопіса “Маладосць”. Ад 2003 года намеснік галоўнага рэдактара “Краязнаўчай газеты”. Друкуецца з 1966 года. У рамане “Гаспадар-камень” (1984), прысвечаным пярэдадню Першай сусветнай вайны, шматбакова паказаў жыццё тагачасных вёскі і горада, няпростыя шляхі нацыянальнай інтэлігенцыі, у якой расло ўсведамленне свайго абавязку. У раманах “Пабуджаныя” (1988) і “Свой дом” (1989) побач з героямі, вядомымі з “Гаспадара-каменя”, шмат новых персанажаў – удзельнікаў і кіраўнікоў палітычнага руху розных кірункаў на Беларусі ў 1917–18 гадах. У рамане “Заходнікі” (1992) створаная панарамная карціна жыцця заходнебеларускага сялянства і інтэлігенцыі ад канца 1940-х, іх “перавыхаванне”, рэпрэсіі, міграцыі. Многія яго творы перакладзеныя на мовы свету.

**105 гадоў** з дня нараджэння Якуба Міско (1911–1981), празаіка, публіцыста, паэта, перакладчыка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

2 ЧЭРВЕНЯ

**1806 год.** Нарадзіўся Аляксандр Валадковіч (каля мястэчка Радашкавічы, цяпер Маладзечанскі раён), адзін з кіраўнікоў паўстання 1830-1831 гг.

СЁЛЕТА:

**135 гадоў** назад у вёсцы Есьманоўцы Яршэвіцкага сельсавета Валожынскага раёна нарадзіўся Іван Біч, псеўданім Таёжны (1881 – 1919). Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Удзельнік рэвалюцыі 1905 – 1907 гадоў, герой грамадзянскай вайны, член Краснаярскага губрэўкама, камісар партызанскага атрада на ўчастку Сібірскай чыгункі Тайшэт-Тулун супраць калчакаўцаў. Падчас баявой аперацыі ў верасні 1919 года трапіў у палон і пасля катаванняў павешаны. У Тайшэце (Іркуцкая вобласць) яму пастаўлены помнік, яго імем названая сярэдняя школа.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

НАВІНЫ ЗАМЕЖЖА: ГЕРМАНІЯ

## Займацца навукай прэстыжна

У Германіі выдаткоўваюць немалыя грошы, каб разумныя галовы рухалі прагрэс.

Вось што пішуць аўтары кнігі "Факты пра Германію", якая выйшла ў 2015 годзе.

Германія ўваходзіць у лік найбольш перадавых краін у плане навуковых даследаванняў і акадэмічнай адукацыі. Пра гэта красамоўна сведчыць трэцяе месца сярод краін з найбольшай колькасцю Нобелеўскіх лаўрэатаў: больш за 80 чалавек.

У сучасным глабальным свеце веды лічацца важнай "сыравінай", і ў Германіі нядрэнныя шанцы ў канкурэнтнай барацьбе за лепшыя галовы.

У навуковым ландшафце Германіі можна вылучыць трох асноўных гульцоў – шчыльную сетку з 400 ВНУ, вядомыя ва ўсім свеце пазаўніверсітэцкія навукова-вытворчыя інстытуты і магутныя навукова-вытворчыя кластары.

Менавіта дзякуючы поспехам у навуковых даследаваннях Германія з'яўляецца чэмпіёнам па экспарце хайтэк-прадукцыі (12% ад аб'ёму сусветнага гандлю) і лідарам у вобласці інавацый сярод краін Еўрапейскага Саюза.

Займацца навукай і навуковымі даследаваннямі ў Германіі лічыцца вельмі прэстыжным. Цягам апошніх гадоў прадстаўнікі бізнесу і палітыкі ўвесь час павялічвалі бюджэтныя выдаткі на навуковую работу.

У 2013 годзе на фінансаванне навукі пайшло 2,84% ад валавога ўнутранага прадукту. Адпаведна, Германія ўваходзіць у лік краін-лідараў, якія інвестуюць больш 2,5% свайго валавога ўнутранага прадукту ў навуковыя даследаванні і інавацыйныя распрацоўкі.

Агулам на навукова-даследчыя і доследна-канструктарскія работы ў Германіі ў 2013 годзе была выдаткавана амаль 80 мільярдаў еўра. Прамысловы сектар выдзяляе каля 67%, ВНУ – 18% і дзяржава – 15%. Даследаванне Innovation Union Scoreboard 2015 Еўрапейскай Камісіі ўключыла Германію разам з Швецыяй, Даніяй і Фінляндыяй у групу "інавацыйных лідараў" Еўрасаюза. У параўнанні з іншымі краінамі 7% глабальных выдаткаў на навукова-даследчыя і доследна-канструктарскія работы прыпадаюць на Германію, хаця ў краіне жыве ўсяго 1,2% насельніцтва зямнога шара.






Данііл Круплевіч (злева) і Ягор Уладзіміраў.



Фота забяспечана Аленай ПАРАХНЁЙ.

Дослед з мохам сфагнумам маладзечанскіх школьнікаў падчас навуковага пікніка ў Польшчы.

# Школьнікі з Маладзечна прывезлі ў Варшаву цуда-мох

МАЛАДЗЕЧНА

**Юныя навукоўцы 8 мая прыехалі з навуковага пікніка ў Польшчы.**

Клуб маладых адкрывальнікаў (КМА) існуе ў СШ №5 ужо чатыры гады. Такіх клубаў у Беларусі толькі тры: яшчэ ў Жодзіне ды Пінску. Стварэнне яго – праект Цэнтра навукі "Капернік", што знаходзіцца ў Варшаве. Арганізатары распаўсюджваюць гэту ідэю на краіны Усходняй Еўропы.

Маладзечанскія вучні спазнаюць навакольны свет, праводзяць доследы, цікавяцца навукай і прыроднымі з'явамі. Кіраўнікі клуба настаўніца біялогіі **Алена Парахня** і выкладчыца фізікі **Людміла Гумянюк** супрацоўнічаюць з "Капернікам" і штогод у лістападзе наведваюць форум у Цэнтры навукі.

Для папулярызацыі навукі і тэхнікі акрамя форуму там ладзяцца навуковыя пікнікі. Яны праводзяцца на вуліцы, на вялікай тэрыторыі. Розныя навуковыя ўстановы паказваюць доследы. Сёлета прайшоў 20, юбілейны, навуковы пікнік Польскага радыё і Цэнтра навукі "Капернік". Арганізатары вырашылі запрасіць замежныя КМА і прапанавалі выбраць адзін клуб з Беларусі.

### Сувязь паміж сфагнумам і Беларуссю

Школьнікі з Маладзечна сталі ўдзельнікамі навуковага пікніка першы раз. **Кірыл Абрамовіч**, **Павел Кіслы**, **Данііл Круплевіч** і **Ягор Уладзіміраў** – актыўныя і дапытлівыя вучні 7 "А" класа. У чатырохдзённую паездку ў якасці апекуна з імі ездзіла Людміла Гумянюк.

Кожны год польскія арганізатары выбіраюць новую тэму пікніка. У гэты раз яна называлася "Здароўе". Удзельнікам трэба было падрыхтаваць тры доследы, звязаныя з тэмай. А таксама правесці сувязь паміж эксперыментамі і роднай краінай.

– Нашы вучні паказалі дослед "Цуда-мох" са сфагнумам. Гэта балотны мох, які ўбірае многа вільгаці. Больш за вату ці звычайны мох. І паколькі ў Беларусі шмат балот, сфагнуму хапае. Яго можна выкарыстоўваць як антысептычны матэрыял: прыкладваць да ран, нават рабіць перавязкі. Беларускія партызаны ў лясах так і рабілі ў час вайны. Акрамя таго, сфагнум змяншае кіслоты, якія забіваюць бактэрыі. Вось які дослед праводзілі нашы вучні. Яны бралі сфагнум, звычайны мох і вату і ўзважвалі аднолькавую колькасць. Потым апускалі ў ваду. Праз пяць хвілін ўзважвалі яшчэ раз. Паказвалі, што сфагнум убірае больш вільгаці. А вада, у якой ён замочваўся, валодае кіслотнай рэакцыяй. Бо лакмусавая паперка, апушчаная ў ваду, чырванела. З балотнага моху таксама можна вырабляць вусцілкі, – расказвала Алена Парахня.

Таксама школьнікі паказалі доследы "Асцярожна! Вуглякіслы газ" і "Непаслухмянае цела". У першым яны даказвалі, што газ цяжкі. Адзін паветраны шар надзімалі помпай. Другі – з дапамогай хімічнай рэакцыі: у бутэльку налівалі воцат, у шарык клалі соду і нацягвалі на горлачка. Сода падала, і шар надзімаўся вуглякіслым газам. Вучні прапанавалі гледачам ўзяць і адпусціць і адзін, і другі на зямлю. Шарык з вуглякіслым газам падаў адразу, бо гэты газ больш цяжкі. У выніку школьнікі раілі быць асцярожнымі ў тых выпадках, калі трэба спускацца ў калодзеж, каб яго пачысціць, у пячору, падвал або ў іншую нізіну. Бо газ, хаця і не атрутны, але ў вялікай колькасці можа прывесці да смерці ад недахопу кіслароду.

### Ці зможаце вы падмануць мозг?

У апошнім доследзе маладзечанцы паказвалі, як мозг нас падманвае. Трэба было падняць правую нагу і пакруціць ёй па гадзіннікавай стрэлцы, адначасова малюючы ў паветры правай рукой шасцёрку. У людзей не атрымліваецца рабіць гэта сінхронна. Левая частка мозгу кантралюе правую, і тут жа знаходзіцца цэнтр сінхранізацыі і рытму. Ён не можа рабіць два супрацьлеглыя рухі.

Маладзечанскія вучні стаялі ў палатцы дзве з паловай гадзіны. І гэта быў вельмі добры досвед, бо яны адчувалі сябе папулярызатарамі навукі на такім грандыёзным мерапрыемстве. Вакол палаткі заўсёды было шмат наведнікаў, якія цікавіліся доследамі беларускай каманды. Акрамя іх, сёлета паказалі доследы сем польскіх Клубаў маладых адкрывальнікаў і па адным з Грузіі і Украіны.

– Нас вельмі гасцінна сустракалі палякі. Жылі мы ў хостэле. Усе выдаткі на дарогу, пражыванне і харчаванне ўзялі на сябе арганізатары. Гэта выдатна, што дзяцей запрасілі. Яны пахадзілі па Цэнтры "Капернік", паглядзелі. Нам далі гіда, які ўсё тлумачыў. Вучні былі проста ў захапленні! Дзеці адчувалі сябе першаадкрывальнікамі, бо там можна было рабіць эксперыменты самому. Мы наведалі тэатралізаваную дэманстрацыю па раўнаважце цел, тэатр высокіх напружанняў, – расказала Людміла Гумянюк.

### Дзе можна страціць сваё адлюстраванне

У цэнтры шмат дзіўных галерэй. Да прыкладу, выстава "Люстэркі", дзе можна пабачыць сваё адлюстраванне ў калейдаскопе і развіць абстрактнае мысленне. Ці тэатр, у якім выступаюць робаты.

Павел Кіслы падзяліўся, што яму падабалася "Зона святла". Яе сутнасць у стварэнні аптычных ілюзій з дапамогай сімулятара і знаёмстве з рознымі формамі электрамагнітнага выпраменьвання. Напрыклад, можна сесці і глядзець на сваё адлюстраванне. А праз 30 секунд заўважыць, што яно знікла. Ці ілюзія з няроўнай падлогай. У кутку можа стаяць два чалавекі аднолькавага росту, але першы падасца карлікам, а другі – веліканам.

Як распавяла настаўніца фізікі, моўны бар'ер паміж удзельнікамі безумоўна прысутнічаў. Але арганізатары праводзілі гульні на знаёмства, на пераадоленне моўнага бар'ера, на зносіны і ўзаемадзеянне. Ягору Уладзіміраву такая інтэграцыя вельмі падабалася. Усіх падзялілі на групы так, каб у кожнай былі дзеці з розных краін. І давалі заданне. Каб яго выканаць, удзельнікам груп належала неяк дамовіцца паміж сабой.

Яшчэ для школьнікаў праводзілі трэнінгі, якія дапамагалі разнявольненню дзяцей. І настройвалі на тое, што паказы на пікніку – гэта не спаборніцтвы паміж клубамі. Удзельнікі робяць агульную справу – папулярызуюць навуку.



Таццяна КАСЬЯН
tatyana.kasyan.94@mail.ru

# Адам Мальдзіс: Нецікавых мясцін у Беларусі няма

## Ёсць недаследаваныя

ВІЛЕЙКА

**У Міжнародны дзень музеяў, 18 мая, віляйчане сустракаліся з Адамам Мальдзісам і Сяргеем Харэўскім. Творчую сустрэчу зладзілі ў выставачнай зале імя Сілівановіча краязнаўчага музея.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Пытанні да Адама Мальдзіса (пасярэдзіне) былі і пасля сустрэчы. Побач віляйчане Міхаіл Міхалевіч, Барыс Манцэвіч і Анатоль Капцюг.

Адразу старшы навуковы супрацоўнік установы **Вольга Коласава** расказала пра музей, гісторыю яго стварэння і прадставіла першага госця – гісторыка мастацтва і архітэктуры, культуролага, мастака, літаратара і мастацтвазнаўцу Сяргея Харэўскага.

Ён сярод іншага распавёў пра кнігу ўспамінаў мастака **Яўгена Цігановіча** "Партрэт стагоддзя" і дойлідства Заходняй Беларусі:

– Аказалася, што ў міжваенны час архітэктура Заходняй Беларусі была ўзнятая на вельмі высокі ўзровень. Ратуючыся ад пераследу, сюды паўцякалі вядомыя інжынеры і архітэктары з Усходу, а таксама пад'ехалі з уласна Польшчы. У гэтым творчым тандэме вядомых дасведчаных архітэктараў з Усходу і архітэктараў уласна польскіх атрымалася такая сітуацыя, калі будавалася вельмі шмат храмаў. І памылкова лічыць, што не ўзводзіліся праваслаўныя храмы.

### "Ляхоўскі – сын ураджэнца Вілейкі"

Літаратуразнаўца, крытык, публіцыст прафесар Адам Мальдзіс прыехаў у Вілейку толькі ў другі раз.

– Сёння Адама Іосіфавіча запрашалі шмат куды, у многія музеі, але ён усім адмаўляў і казаў, што "я паеду ў Вілейку", – дзялілася Вольга Коласава. – Па-першае – на радзіму **Георгія Ляхоўскага**, імя якога невядомае для многіх віляйчан, па-другое, тут жыве яго студэнцкі сябра **Барыс Манцэвіч**.

Ураджэнец Астравеччыны Адам Мальдзіс падзяліўся ўспамінамі пра жыццё, даследаваннямі. Прыгадаў, як працаваў у газеце ў Радашкавічах:

– І тады зразумеў, што нецікавых мясцін на тэрыторыі Беларусі няма, ёсць толькі недаследаваныя.

Расказаў пра беларусаў замежжа і іх ролю ў развіцці іншых краін. Багата цікавага распавёў пра ўраджэнца Вілейкі **Георгія Ляхоўскага** (у многіх нарысах падаюць як Лахоўскага).

– Але на самой справе гэта род Ляхоўскіх, – даводзіў ён. – Як потым удалося ўстанавіць, Ляхоўскі – сын ураджэнца Вілейкі. Але ў адным з артыкулаў напісалі пра яго месца нараджэння – Вілейка ці Ілья. Спецыяльна з'ездзіў у Ілью, праверыў, ці мог ён там нарадзіцца. А як ён мог там нарадзіцца, калі яго бацька быў выкладчыкам лацінскай і грэчаскай моў у гімназіі і адвакатам. У Ілы ж тады не было ані суда, ані гімназіі. Значыць, зразумела, што ён у Вілейцы нарадзіўся.

Выказаў Адам Мальдзіс такую ідэю:

– Калі ехаў сюды, падумаў: "А дзе стварыць такі ўсебеларускі, а можа міжнародны цэнтр або фонд імя Ляхоўскага, як не ў Вілейцы". І калі перакладуць яго кнігу з французскай мовы, то экзэмпляр адразу ж перададзім у вілейскі музей.

Чуллівай была сустрэча Адама Мальдзіса з віляйчанінам **Барысам Манцэвічам**, з якім вучыліся на аддзяленні журналістыкі БДУ.

Той нагадаў пра вечар, прысвечаны разгляду творчасці Янкі Брыля. Праходзіў ён 12 лістапада 1953 года.

– Выступалі там многія, але мне больш за ўсё спадабалася выступленне Адама Мальдзіса, – казаў Барыс Манцэвіч. І зачытаў з дзённіка: – Цікавы эпізод са свайго жыцця прывёў Адам Мальдзіс. Гэтым летам ён прачытаў сярод калгаснікаў аповесць "У Забалоцці днее". Калі скончыў чытаць, калгаснікі ў героях аповесці пазналі многіх сваіх аднасяльчан. Гандлярку самагонам з першага дня празвалі Тарадрай. Значыць, героі Брыля – народныя.

Яшчэ і яшчэ Барыс Манцэвіч прыводзіў успаміны пра Адама Мальдзіса. На што той толькі з усмешкай казаў: "Чаму я гэтага не помню?".

Віляйчане задавалі пытанні Адаму Мальдзісу і падчас сустрэчы, і пасля яе. Цікавіліся, якія кнігі пра Вілейшчыну варта перакласці з польскай мовы.

Госці перадалі ў музей кнігу "Партрэт стагоддзя" і матэрыялы пра Ляхоўскага. А ім прызначаліся падарункі ад музея ды матэрыялы ад архітэктара і краязнаўцы **Анатоля Капцюга**, кніга Барыса Манцэвіча.

### Якой запомнілася Вілейка ў першы прыезд

Адам Мальдзіс расказаў "РГ" пра свой першы візіт у Вілейку:

– Гэта быў 1947 ці 1948 год. Яшчэ хадзіў у сярэднюю школу. Тут тады была абласная бальніца, паслалі мяне на рэнтген. Надвор'е дажджлівае, думаю: "Чаго мяне пагнала сюды". Трэба было доўга чакаць цягніка. Акрамя таго, нікога знаёмага не было. І неяк не было такіх розных аб'ектаў, якія сёння ёсць. Цяпер гэта сапраўдны горад. А тады ў нас яго называлі Старой Вілейкай, бо Новая Вілейка каля Вільні. Дык я думаю: "Якая Старая Вілейка, калі амаль ніякіх помнікаў архітэктуры няма?" Касцёл то, вядома, пабачыў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ". Георгі Ляхоўскі** (1869 ці 1870 – 1942). Навуковец (вынаходнік, механік, радыёінжынер, лекар, філосаф, мастак). Нарадзіўся ў Вілейцы Мінскай губерні. У 6 гадоў сканструяваў вадзяны млын. Ад 12 год вучыўся ў Мінску, потым паступіў у Адэскую школу мастацтваў і рамёстваў. У 1894 годзе едзе ў Парыж, становіцца студэнтам Сарбоны. Эміграваў у ЗША ў 1941 годзе. Запатэнтаваў шэраг вынаходніцтваў. Самым значным з іх лічыцца шматчастотны генератар, які выкарыстоўваецца для лячэння многіх захворванняў (у першую чаргу анкалагічных). У Нью-Ёрку быў заснаваны Інстытут шматчастотных хваляў імя Георгія Ляхоўскага (1945).

# Можна павандраваць з мастаком

ВІЛЕЙКА

**Больш за сорак пераважна графічных работ вілейскі мастак Уладзімір Лукша прадставіў на выставе "Маё натхненне…".**

Адкрылася яна 19 мая ў выставачнай зале імя Сілівановіча.

– Мастака-вандроўніка Уладзіміра Лукшу натхняе прырода. Ён любіць падарожнічаць па родных мясцінах і розных кутках Беларусі, – расказвае навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**. – Уладзімір Лукша шмат вольнага часу прысвяціў падарожжам, знаёміўся з прыродай і помнікамі архітэктуры роднага краю. А затым на белым аркушы паперы з'яўляліся ціхаплынныя рэкі і дубровы, вуліцы і дамы, белыя вежы палацаў і купалы цэркваў.

На выставе можна пабачыць выявы родных мясцін мастака, Вілейшчыны, Маладзечна, возера Нарач ды іншых мясцін і гарадоў Беларусі. І не толькі: раней Уладзімір Лукша маляваў розныя мясціны былога Савецкага Саюза.

– На яго працах пабачыце не толькі помнікі знакамітым людзям і сакральнае дойлідства, а і проста вуліцы. Бо яны для горада – як крывяносная сістэма для чалавека, – дадае Надзея Аўдзей.

Уладзімір Лукша расказаў юным і дарослым наведнікам выставы пра творчасць і падарожжы:

– Мяне цікавяць гістарычныя мясціны. Але разам з тым і сучасныя: скверы, паркі. Аднак найбольш вабіць прырода: люблю падарожнічаць. Мабыць, таму, што нарадзіўся на прыродзе, у вёсачцы Пагор'е на Вілейшчыне, дзе было ўсяго пяць домікаў.

Прыгадаў ён, як прайшоў вакол возера Нарач. Вынікам стала кніга "Нарачанскія ваколіцы". Гэта кніга і многія іншыя прадстаўленыя на выставе. Усяго выдалі больш за 30 кніжак-альбомаў мастака.

Цяпер рыхтуецца новая кніга з работамі Уладзіміра Лукшы. Там будуць сабраныя партрэты.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ". Уладзімір Лукша** нарадзіўся 15 мая 1948 года. У сям'і было дзевяць дзяцей, Уладзімір быў пятым. Пазней бацькі пераехалі ў вёску Кульшына. Яшчэ да вайсковай службы ён паступіў вучыцца ў Маскоўскі завочны народны ўніверсітэт на курсы малюнка і жывапісу. Пэўны час жыў у Маладзечне. Ад 1972 года жыве ў Вілейцы. Працаваў мастаком-афармляльнікам на заводзе "Зеніт".

# Віляйчане сталі лаўрэатамі конкурсу Jazz Time

ВІЛЕЙКА

**У Салігорску ад 12 да 15 мая праходзіў шосты міжнародны конкурс джазавай і эстраднай музыкі Jazz Time 2016. Удзельнічала ў ім каля 700 юных музыкантаў.**

Лепшых выбіралі ў некалькіх намінацыях. Навучэнцы Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў атрымалі ўзнагароды розных ступеняў.

Лаўрэатам першай ступені ў намінацыі "Ансамблі" стаў эстрадна-джазавы ансамбль школы (кіраўнік – **Фёдар Гур**, канцэртмайстар – **Дар'я Рогач**).

– Проста цудоўны конкурс, найскладанейшы, – дзеліцца ўражаннямі Фёдар Гур. – У ім брала ўдзел шмат музыкантаў высокага ўзроўню з Масквы, Яраслаўля, Адэсы, Кіева і ўсёй нашай краіны.

Ансамбль удзельнічаў у конкурсе трэці раз і штораз станавіўся лаўрэатам. Двойчы – першай ступені і адзін раз – другой.

А яшчэ **Аляксандра Капцюг** стала лаўрэатам другой ступені ў намінацыі "Саліст-інструменталіст". **Ганна Грышкевіч** у намінацыі "Саліст-вакаліст" атрымала дыплом лаўрэата трэцяй ступені (настаўніца **Кацярына Анасовіч**).

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАВІНЫ

## Шалёная падтрымка трыбун і пераклічка фанатаў

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ

Футбольны клуб "Ашмяны" нарэшце спыніў пройгрышную серыю. Зрабіў гэта 22 мая ў матчы з суседзямі – "Смаргонню". Пры перапоўненых трыбунах стадыёна ў Ашмянах гаспадары атрымалі перамогу з лікам 1:0.

– Матч быў нервовым, жорсткім, часам нават грубым. Арбітр паказаў шэсць жоўтых картак (пяць "Ашмянам" і адну – "Смаргоні"). Прычым чатыры з іх у апошнія 10 хвілін гульні, – расказвае прэс-аташэ ФК "Ашмяны" **Аляксандр Навумчык**.

У канцы першага тайма атрымаў траўму варатар ашмянскай каманды **Ягор Радкевіч**. Яго давялося замяніць. На поле выйшаў **Віталь Жалудок**.

На 69-й хвіліне адзіны гол у матчы забіў **Януш Ладуцька**.

– Матч, вядома, асаблівы: як-ніяк, дэрбі. Але фанаты абедзвюх каманд сябруюць. Падчас матча фаны "Смаргоні" часам крычалі: "Ашмяны!", а ашмянскія – "Смаргонь!", – дадае Аляксандр Навумчык. – Перамагчы ўдалося за лік вар'яцкай самааддачы гульцоў, тактычных указанняў трэнера і шалёнай падтрымкі трыбун.

"Смаргонь" займае дзявятае месца, "Ашмяны" – 14-е.

## Каратысты з Вілейкі заваявалі ўвесь камплект узнагарод у Эстоніі

ВІЛЕЙКА

У Таліне 21 мая прайшоў міжнародны турнір па каратэ WKF- BUDO CUP 2016. Удзельнічалі каманды з Літвы, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі, Нарвегіі, Расіі, Беларусі.

– Для віляйчан спаборніцтвы склаліся ндрэнна, – расказвае трэнер вілейскага клуба "Самурай" **Сяргей Кірыевіч**. – Нават тыя хлопцы, якія не ўзялі медалі, заваявалі чацвертыя месцы – **Яўген Канапелька** і **Улад Закрэўскі**. Ім проста крыху не пашчасціла.

Трэцяе месца заняў **Дзмітры Стражнікаў** (у катэгорыі 12-13 год). Пасля дзвюх перамог у паядынку за выхад у фінал прайграў беларусу. Але потым атрымаў яшчэ дзве перамогі.

**Мікіта Кірыевіч** заняў першае месца ў катэгорыі 16-17 год. У фінале перамог эстонца 2:0.

На рахунку **Паўла Кірыевіча** – два медалі. Ён быў першы ў катэгорыі 18+ (да 76 кілаграмаў). У фінале быў мацнейшы за расіяніна 3:1.

Змагаўся Павел і ў абсалютнай вагавой катэгорыі. Тут таксама выйшаў у фінал. Аднак саступіў эстонцу. У выніку – другое месца.

## У Вілейцы праходзіць турнір па міні-футболе

ВІЛЕЙКА

У Вілейцы 15 мая пачаўся традыцыйны турнір па міні-футболе. Гульні праходзяць на пляцоўцы з сінтэтычным пакрыццём у вілейскай СШ №1.

Удзельнічаюць 11 камандаў. Першы тур прынёс такія вынікі: "Мехатроніка" выйграла ў райаддзела па надзвычайных сітуацыях 4:1, "Фламетр" абыграў "Любань" 8:1, "Рубін" быў мацнейшы за "Куранец" 6:1.

Яшчэ дзве гульні прайшлі больш напружана і скончыліся з лікам 4:3. "Шылавічы" мінімальна абыгралі "Макаўе", а "Воўкаўшчына" – "Нарачанскія зоры".

Другі тур адбыўся 22 мая. Пакуль з дзвюма перамогамі лідзіруюць тры каманды: "Фламетр", "Зеніт", Мехатроніка", расказаў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан.**

Але не ўсе каманды правялі аднолькавую колькасць гульняў.

## Мядзяльчанін змагаўся з зоркамі сусветнага веславання

МЯДЗЕЛ

Выпускнік Мядзельскай СДЮШАР **Аляксей Махніст** удзельнічаў у Еўрапейскім адборы на Алімпійскія гульні і першым этапе Кубка свету па веславанні на байдарках і каноэ. Гэтыя спаборніцтвы праходзілі ў Дуйсбургу (Германія) 18-22 мая.

Найлепшае дасягненне Аляксея на этапе Кубка свету – на дыстанцыі 500 метраў на каноэ-адзіночцы заняў 10-месца.

– Спаборніцтвы былі на вельмі высокім узроўні: і арганізацыя, і ўзровень спартсменаў. Выступалі ўсе зоркі сусветнага веславання, – расказаў ён. – Вельмі здорава паўдзельнічаць у такіх спаборніцтвах. Хоць не вельмі ўдала атрымалася, але матывацыі набраўся хоць адбаўляй. Мы толькі ў панядзелак прыляцелі ў Беларусь, а ўвечары ў аўтокар – ужо на трэніроўку.

Раней Аляксей перамог на каноэ-адзіночцы на дыстанцыях 1000 і 500 метраў на спаборніцтвах Кубка Беларусі ў Брэсце.

Ад лістапада мінулага года Аляксей служыць у войску, у спартыўнай роце.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Палачаны запрашаюць на спаборніцтвы па канкуры

МАЛАДЗЕЧНА

**27 і 28 мая на племяннойканяферме ў Палачанах пройдуць спаборніцтвы па канкуры сярод наезнікаў каняфермы.**

Акрамя спаборніцтваў, кіраўніцтва і наезнікі каняфермы вырашылі зладзіць свята для ўсіх аматараў верхавой язды, для ўсіх, хто любіць коней.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказала **Алёна Белавус**, адна з арганізатараў свята:

– Мы спрабуем удыхнуць у нашу каняферму новае жыццё. Таму шукаем розныя спосабы папулярызацыі такога віду спорту, як верхавая язда. Спадзяёмся, што тыя, хто прыедзе да нас на свята, потым будуць прыязджаць часцей.

Акрамя відовішчных спаборніцтваў, а некаторыя коні будуць пераадольваць 120-130-сантыметровыя бар'еры, усе ахвотныя змогуць пакатацца на карэце або вярхом на кані, паўдзельнічаць у забаўляльнай праграме ды і проста палюбавацца на прыгожых, пародзістых коней.

– А для дзетак-інвалідаў мы правядзём нашу традыцыйную акцыю дабрыні. Акцыя пройдзе ўжо ў пяты раз. Напрыканцы кожнага месяца мы ладзім такія сустрэчы. Тэрапеўтычны эфект ад катання і проста ад знаходжання побач з коньмі вядомы даўно.

**– Ці можна прывозіць коням прысмакі?**

– Так. Нашых гадаванцаў можна частаваць яблыкамі, морквай і цукрам. На свяце мы паставім кошыкі, куды можна будзе пакласці іх для коніка. А вось карміць іх самім нельга. Таму што ў кожнага нашага гадаванца свой рэжым. А яшчэ не ўсе коні любяць цукар або яблыкі. Таму мы самі размяркуем тую садавіну, гародніну і цукар, што прынясуць наведнікі, і пасля будзем частаваць нашых гадаванцаў.

Спаборніцтвы і ў пятніцу, і ў суботу пачынаюцца а 10 гадзіне раніцы.

**Наталля ТУР.**




Фота Наталлі ТУР.

**У Палачанах не ўпершыню праводзяць спаборніцтвы рознага ўзроўню і падрыхтоўкі спартсменаў. Падчас спаборнітваў па выездцы коней 14 мая.**

# Алег Гулевіч: "Вілія" сёлета сабрала лепшы склад"

ВІЛЕЙКА

**Першы дамашні матч чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе"Вілія" з Вілейкі правяла 22 мая. Абыграла "Капыль" з лікам 1:0.**

– Каманда сапернікаў спадабалася: добрая, маладая, – кажа прадстаўнік "Віліі" **Алег Гулевіч**. – Але мяч мы трымалі больш, мелі моманты. Мог вызначыцца **Дзмітры Вышынскі**.

Як і ў мінулай гульні з "Уздой", гол з пенальці забіў **Мікалай Татун**. Адбылося гэта ў пачатку другога тайма.

– Потым яшчэ маглі павялічыць лік, – працягвае Алег. – Хачу падзякаваць заўзятарам, іх было шмат. Прыемна, што не толькі вілейскія прыйшлі – былі і з Маладзечна.

У першым туры "Вілія" 15 мая на выездзе з "Уздой" згуляла ўнічыю 1:1.

## "Дасведчаныя маладзечанцы падцягнуць вілейскую моладзь"

Алег Гулевіч расказаў, што сёлета "Вілія" сабрала лепшы склад, чым летась.

– Гульцы ў нас і з Вілейкі, і з Маладзечна. Да тых маладзечанцаў, якія гулялі за нас раней, запрасілі дасведчаных футбалістаў: **Сяргея Дараховіча, Мікалая Татуна, Максіма Чабрыцкага**, Дзмітрыя Вышынскага, **Сяргея Дразда.** Хацелася, каб было больш гульцоў з Вілейкі. Але аднымі вілейскімі мы не выцягнем: хочам больш высокае месца заняць, чым у мінулыя гады. У нас заўзятары лепшыя ў вобласці, падтрымліваюць выдатна. Аднак, каб прыцягнуць балельшчыкаў, трэба паказваць, у першую чаргу, відовішчную гульню.

Па меркаванні Алега Гулевіча, дасведчаныя маладзечанскія футбалісты дапамогуць падцягнуць вілейскую моладзь:

– Будзем заўляць 16-17-гадовых гульцоў. Збіраемся на 10-20 хвілін іх выпускаць. Хочам падцягнуць падрастаючае пакаленне. Бо быў у нас такі перыяд, што ад моладзі не было ніякай падтрымкі, усё старымі кадрамі абыходзіліся. Можа, штосьці з гэтага атрымаецца. Дасведчаныя маладзечанскія футбалісты падкажуць ім, як гуляць. Для нашай моладзі гэта будзе стымул расці.

Не раз пісалі пра бядотны фінансавы стан вілейскай каманды.

Сёлета віляйчанам будзе прасцей, лічыць прадстаўнік "Віліі":

– Транспартам на выязныя гульні будзе забяспечваць аддзел адукацыі, спорту і турызму. Запрацавалі на стадыёне новыя раздзявальні, душавыя. А то раней даводзілася ў каледжы прасіцца. Сябры вілейскага футбола набылі тры гульнявыя мячы, гетры. Прыватныя фірмы з Вілейкі гатовыя дапамагчы з фінансамі на харчаванне на выездах.

**– На гэты сезон якія планы?**

– У нас кожны год план такі: галоўнае, каб не апошнімі быць. А там, як атрымаецца: футбол ёсць футбол. Тым больш, што склад сёлета лепшы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




# Баклажаны: садзім, вырошчваем, тушым, ядзім

Працягваем тэму баклажанаў. Прапаную вам новыя рэцэпты, якія даслала нам ураджэнка Маладзечна **Вольга Бермудэс**, якая цяпер жыве ў далёкім замежжы. Яна працуе доктарам-хірургам, часу на прыгатаванне няшмат. А муж у яе ад нараджэння вегетарыянец, не есць ні мяса, ні рыбу, таму даводзіцца прыдумваць розныя стравы з прадуктаў расліннага паходжання.

### Катлеткі з баклажанаў

*1 баклажан, 1 цыбуліна, 1 морквіна, 1 зубок часнаку, 1 шклянка кавалачкаў мякішу чорнага хлеба, 1 шклянка надзёртага цвёрдага сыру, 2 яйка, соль і спецыі – на смак.*

Баклажан парэжце на дробныя кавалачкі і трохі пратушыце, каб размяк (можна паставіць у мікрахвалевую печку). Размяклы баклажан разамніце відэльцам і хай трохі пастаіць, каб астыў. Дадайце да яго дробна парэзаную цыбуліну, моркву, надзёртую на дробнай тарцы, мякіш чорнага хлеба, расціснуты зубок часнаку і шклянку сыру. Убіце 2 яйка. Прыпраўце ўсё спецыямі і соллю, добра перамяшайце. Шмат не саліце, бо тут ёсць сыр. З гэтага фаршу сфармуйце катлеткі і абсмажце да залацістай скарыначкі з абодвух бакоў.

### Рулецікі з баклажанаў з сырам і грэцкімі арэхамі

*1 баклажан, 30 г арэхаў, 4 зубкі часнаку, 100 г сыру, 25 г маянэзу, пятрушка ці кроп – на смак.*

Баклажаны парэжце ўздоўж тонкімі лустачкамі, пасыпце соллю і пакіньце на 15 хвілін, затым спаласніце ў вадзе і выкладзіце на патэльню ў папярэдне разагрэты алей. Пасыпце трохі чырвоным перцам і каляндрай. Абсмажце да гатоўнасці з кожнага боку, выкладзіце на папяровы ручнік, каб сцёк алей.

Начынка: сыр надзярыце на дробнай тарцы, дадайце здробненыя арэхі, расціснуты часнок і атрыманую масу змяшайце з маянэзам. Пры жаданні можна дадаваць дробна парэзаныя кроп ці пятрушку.

Начынку размажце тонкім слоем па лустачцы баклажана, затым даволі туга скруціце, можна закалоць зубачысткай ці трохі абсмажыць.

Хай баклажаны трохі пастаяць.

**Проста МАРЫЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 3 | 1 | 7 | |
| | 6 | | | | | | | |
| 4 | 8 | | | | 9 | | | |
| | | | | | 4 | 2 | | 8 |
| 3 | | 8 | | | | 7 | | 6 |
| 2 | | 5 | 3 | | | | | |
| | | | 2 | | | | 9 | 1 |
| | | | | | | | 6 | |
| | 3 | 1 | 9 | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● АФІША









Кадры з вясёлай анімацыйнай гісторыі "Ангрыбёрдс".

Фразы птушак, якія можна цытаваць у любой сітуацыі:

– Хвост табе ў дзюбу!

– Як настрой?
– Агідны!

– Вы для чаго хадзілі на заняткі?
– Ну, тут бясплатна кормяць...
– Заняткі? Якія заняткі?

# "Хвост вам у дзюбу!", або Чаму варта схадзіць на "Ангрыбёрдс"

### КІНО МАЛАДЗЕЧНА

Пакуль кінатэатр "Радзіма" не радуе кінаманаў новымі прэм'ерамі, ёсць час засяродзіцца на тым, што ідзе ў кінатэатрах другі тыдзень.

І хай выбачаюць аматары фэнтэзі. Для іх працягваецца паказ **"Варкрафту"**, дзе людзі па-ранейшаму супрацьстаяць оркам.

І таксама аматаркі Джоні Дэпа. На яго можна палюбавацца ў фільме **"Аліса ў Залюстаркоўі"**, які цягам тыдня будзе ісці ў кінатэатры.

А спыніцца хочацца на вясёлай анімацыйнай гісторыі **"Ангрыбёрдс"**.

Мультфільм у 3Д спадабаецца ўсім, незалежна ад узросту.

Ну, не можа птушка, якая змагаецца з прыступамі гневу і з няпрошанымі гасцямі – свіннямі, пакінуць хоць некага раўнадушным.

Ад пачатку да канца фільма ўсмешка не сыходзіць з твару, а некаторыя моманты прымушаюць проста рагатаць.

Сябар птушкі Рэда, які можа бамбануць, калі знервуецца, другі сябар, які настолькі гіперактыўны, што ад яго рабацца у вачах.

Беспрынцыповыя свінні, якія крадуць чужыя яйкі. Мудры арол, які растаўсцеў і ўпаў у старэчы маразм.

Карацей, ідзіце ў кіно, не расчаруецеся. І не шукайце нейкіх патаемных сэнсаў, проста атрымлівайце асалоду.

### КІНО ВІЛЕЙКІ

Вілейскі кінатэатр "Мір" таксама прапануе сваім наведнікам паглядзець "Ангрыбёрдс" і "Варкрафт". Так што выбірайце горад і кіно па сваім гусце і, калі ласка, – у свет прыгодаў, фантастыкі і іншай рэальнасці.

**Наталля ТУР.**

**Пра час і цану кінасеансаў глядзіце ў рубрыцы "Рэпертуары" на нашым сайце**

Rh.by

● ГАРАСКОП
27 МАЯ - 2 ЧЭРВЕНЯ

**Авен.** Лёс прыхільны да вас і стане дапамагаць вам літаральна ва ўсім, калі, канешне, вы самі не будзеце сабе перашкаджаць і спрабаваць усімі сіламі пазбегнуць спрыяльнай падзеі ў вашым жыцці.

**Цялец.** Магчымае рамантычнае знаёмства, якое можа прынесці не толькі прыемныя імгненні, але і развіцца з часам у нешта большае.

**Блізняты.** Вы будзеце схільныя да фаталізму, думаючы, што ўсё вырашае выпадак, і, магчыма, на нейкі час апусціце рукі. Але хутка з вамі будуць адбывацца толькі спрыяльныя падзеі, і вы зноў паверыце ва ўдачу і ў тое, што ўсё залежыць менавіта ад вас.

**Рак.** Радасць зноў наведае ваш дом, дазваляючы значна ўмацаваць адносіны і набыць штосьці каштоўнае для паўсядзённага быту.

**Леў.** У вас вельмі моцна абвострыцца інтуіцыя і пачуццёвасць, а адсюль, як вынік, і павышаная эмацыйнасць і ранімасць.

**Дзева.** Вам, магчыма, прыйдзецца зрабіць нялёгкі выбар, крок у невядомае, калі зусім будзе незразумела, да чаго прывядуць вашы дзеянні. Але зрабіць выбар усё ж трэба будзе.

**Шалі.** Калі рэзкае слова гатовае будзе сарвацца з вашага языка, падумайце пра магчымыя наступствы. Толькі ваша вытрымка зможа ўтрымаць падзеі ў мірным рэчышчы. Вы зможаце нявыгадную сітуацыю ператварыць у карысную для сябе, калі будзеце трохі думаць.

**Скарпіён.** Розныя клопаты пачнуць вас стамляць і папраўдзе надакучаць. Таму лепш правесці час сам-насам і звесці да мінімуму ўсе кантакты, якія толькі магчыма.

**Стралец.** Магчымыя перамены ў жыцці блізкіх, якія закрануць вас маральна і матэрыяльна. Удзяліце больш увагі здароўю свайму і членаў сям'і.

**Казярог.** Не сварыцеся, умейце знаходзіць кампрамісы. Сур'ёзна падумайце над сваімі адносінамі, бо разысціся лёгка, але ці гэта вам сёння трэба.

**Вадалей.** Ад вас запатрабуецца прыняцця ўзважанага рашэння. Правільны выбар прынясе вам поспех як у справах фінансавых, так і ў асабістых.

**Рыбы.** Вы будзеце змагацца з цяжкасцямі. І першая – лянота. Калі вы перасіліце яе і справіцеся з дрэнным настроем, то вас чакае поспех.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

### 28 мая, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +14 +23 | | +15 +23 | | +15 +24 | | +17 +24 | |
| | 742 | ↓ 7 | 743 | ↙ 2 | 742 | ← 3 | 740 | ← 4 |
| Вільня | +15 +22 | | +13 +24 | | +15 +25 | | +16 +25 | |
| | 751 | ↙ 1 | 752 | ← 3 | 751 | ← 3 | 749 | ← 3 |

Тэмпература паветра. Воблачнасць ападкі. Ціск (мм рт. сл.). Хуткасць ветра м/с. Усход, захад па Маладзечне.

Усход 4.48
Захад 21.31
Даўжыня дня 16.43

Усход 1.22
Захад 11.17
Квадра 3




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература +3,4 °С у 1994 годзе
Максімальная тэмпература +30,9 °С у 1958 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 19,6 мм у 1996годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Чаму пашыць адзенне дорага? Чаму калі мужчына блага апрануты, сорамна павінна быць жанчыне? Разважаюць гаспадыні швейнай майстэрні.



## Курортны сезон на Нарачы адкрыюць з майстрамі па разьбе

**МЯДЗЕЛ**

У зялёным тэатры курортнага пасёлка Нарач (Купа) 29 мая пройдзе адкрыццё курортнага сезона. Здраўніцы пакажуць візітоўкі, запрацуюць пляцоўкі: "Горад майстроў", "Прысмакі на Нарачы", "Аграсядзібы запрашаюць", "Дзіцячы горад забаў", ""Забаўляльнае лета" ды іншыя.

Адначасова пройдзе сёмае рэгіянальнае свята-конкурс "Разьбы зачараванне".

Яно стала на Мядзельшчыне традыцыйным. Праходзіць свята раз у тры гады. Плануюць, што ў ім прымуць удзел больш за дваццаць майстроў.

Пачатак святаў – у 10 гадзін.

**Аддзел інфармацыі.**



## Вілейскі праект трапіў у фінал

**ВІЛЕЙКА**

Праект сацыяльнай арт-лабараторыі "Добрыя рэчы", пра які пісала "РГ", выйшаў у фінал сёмага конкурсу сацыяльных праектаў Social Weekend.

Экспертнае журы адабрала 18 з 47 праектаў у рэспубліканскім і рэгіянальным конкурсах. Вілейскі праект стаў адным з васьмі ўдзельнікаў фіналу рэгіянальнага конкурсу сацыяльных праектаў.

Фінал адбудзецца 4 чэрвеня.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



## Што было на "Ночы музеяў-2016"

**МЯДЗЕЛ**

Адбывалася гэта ў Мядзельскім музеі народнай славы ўвечары 21 мая.

У гэты дзень прыехала мастачка **Ніна Пілюзіна**. Яна пазнаёміла з выставай "Прарыў", расказала, як ствараe гобелены і карціны ў тэхніцы батык. Можна было пабачыць выставу драўлянай скульптуры і жывапісу мядзяльчаніна **Аляксандра Куцкевіча.**

Наведнікі не проста знаёміліся з экспазіцыяй музея – удзельнічалі ў гульні-квэсце. Заданняў было шмат: у гасцей правяралі, ці ведаюць яны гісторыю Мядзельшчыны. Яны мусілі навобмацак вызначыць, што за крупы ў талерцы. Падсілкаваўшыся караваем, трэба было знайсці сярод экспанатаў, у чым раней захоўвалі кілбасы. Ці адшукаць прыладу, якая раней замяняла прас, і паказаць, як ёй прасавалі. Для дзяцей гэта была нялёгкая задача.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Якая ваша любімая фраза з мультфільма або фільма?



**Святлана Міцюль, гаспадыня:**

– Люблю фразу з мультфільма "Піф-паф, ой-ё-ёй", якая гучыць так: " – Зязюлечка, маленькая мая, ты на месцы? – На месцы!". І фразы Тосі Кісліцынай з фільма "Дзяўчаты": " Ну ты, Ілюша, і агрэсар" і "Добра ж вас у дзіцячым доме выхавалі".



**Кацярына Краўчонак, спецыяліст групы прапаганды і навучання МНС:**

– Самая любімая з мульціка пра Кешу: "Гаіці, Гаіці... Не былі мы ні ў якой Гаіці, нас і тут няблага кормяць".



**Павел Малашка, прадавец-кансультант:**

– З фільма "Кін-дза-дза". "Неба не бачыла такога ганебнага пацака, як ты, Гедэван Аляксандравіч". І яшчэ адна з таго ж фільма: "Вы нам жоўтыя штаны, а мы вам ну колькі хоц".



**Вераніка Якушык, гаспадыня:**

– З мультфільма "Трам, прывітанне": "Раз, рамонак, два рамонак, а я чацверты сарваў".



**Ірына Касандровіч, у дэкрэтным адпачынку:**

– Любімая фраза, гэта трэба падумаць. Хаця, як казала Скарлет А'Хара: "Я падумаю пра гэта заўтра".



**Уладзімір Занюк, лагіст:**

– А ты не баішся разбіцца?
– Не. Часам пяць хвілін язды на матацыкле бываюць цікавейшымі, чым усё жыццё ў некаторых людзей.

Фраза з фільма "Самы хуткі "Індыян".



**Вадзім Драздоўскі, часова не працуе:**

– Мульцікі я вельмі люблю. Таму і самыя любімыя фразы з іх: "Крылы, ногі, галоўнае – хвост", " Іншыя не ўлезуць, а мой улезе, глядзі, Пятачок". Але самая любімая з "Мадагаскара": "Галоўнае ў жыцці, мець шалёных сяброў".

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№22 (1100) 27.05.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 498. Падпісана ў друк у 9.00 26.05.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.